6 снежня 2019 | № 45 (656)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы Час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Армянскі «Бандэра»
Стар. 9

4 – 5 ЦІ ПАЎСТАНЕ ГРАМАДЗЯНСКІ СУПРАЦІЎ ІНТЭГРАЦЫІ З РАСІЯЙ?

«Новы Час» спытаў грамадскіх і палітычных дзеячаў пра пагрозы нашай незалежнасці, а таксама пра тое, як на іх мусіць рэагаваць грамадзянская супольнасць

6 – 7 РАСІЙСКІЯ ВОЙСКІ НА МЯЖЫ З БЕЛАРУССЮ

Непасрэдна ля мяжы з нашай краінай з 2016 года пачалі фарміравацца новыя расійскія ўдарныя падраздзяленні

10 «БЛЮЗ НА ВЕРШ БАГДАНОВІЧА – ЧАМУ НЕ?»



Блюзавы Багдановіч і рок-н-рольна-панкавы Караткевіч – усё гэта адметнасці новага альбома «Стрэчанне» гурта «Kaciaryna Vadanosava & Fantasy Orchestra». Яго прэзентацыя пройдзе ў Мінску 12 снежня

11 ЁН АДРАДЖАЎ СЛАВУ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



Анатолю Яўхімавічу Беламу 10 снежня споўнілася б 80 гадоў

# Распішыцеся, але не атрымайце!



Сяргей ПУЛЬША

**Што б ні падпісалі Аляксандр Рыгоравіч і Уладзімір Уладзіміравіч наконт «паглыбленай інтэграцыі» — дакумент, хутчэй за ўсё, будзе няўдалым. Яго могуць назваць «прынцыповым рашэннем», «рухам у напрамку», і нават «важным крокам». Але крокам ён, хутчэй за ўсё, і застанецца.**

Супраць падпісання такога дакумента ў вызначаныя тэрміны ёсць некалькі фактараў.

Час. Напрыканцы лістапада спадар Давыдзька анансаваў сустрэчу беларускага кіраўніка з дэпутатамі 6 і 7 склікання Палаты прадстаўнікоў. Лукашэнка будзе заняты тым, каб працаўладкаваць адных і прыглядзецца да новенькіх. Аляксей Венядзіктаў, кіраўнік «Эха Масквы», напісаў у Тэлеграм-канале, што запланаванае на 6 снежня інтэрв'ю з Лукашэнкам адмяняецца: той ляціць у Сочы на сустрэчу з Пуціным. Адначасова туды ж адпраўляюцца прэм'ер-міністры краін, і, відавочна, што там будзе даволі жорсткая размова наконт «паглыблення інтэграцыі». 7 снежня ў Сочы пройдзе Кубак Саюзнай дзяржавы па самба, які Пуцін прапусціць не можа. 8 снежня, у гадавіну Саюзнай дзяржавы, трэба нешта падпісваць. А 9 снежня Пуціна чакае «нармандскі фармат» па Украіне, што, канешне, непакоіць яго значна глыбей, чым Беларусь.

Такім чынам, на «шліфоўку» дакументаў, якія могуць быць падпісаныя 8 снежня, часу папросту няма. А пакет дарожных картаў паўнавартасна не гатовы.

Эканоміка. Зразумела, Беларусь зацікаўленая ў тым, каб «глыбокая інтэграцыя» была падмацаваная нізкімі коштамі на нафту і газ, а таксама захаваннем экспартных пошлінаў ад нафты і нафтапрадуктаў, што і з'яўляецца галоўным пытаннем да расійскага боку. Мы хочам нізкія цэны проста цяпер, а Расія кажа: спачатку інтэграцыя, потым і пра кошты падумаем.

Але Лукашэнка ў кастрычніку наведаў Туркменістан, Кыргызстан і Казахстан — краіны патэнцыйнага «нафтавага» рэгіёну. У Туркменістане, напрыклад, уладальнік аўтамабілю атрымлівае 120 літраў бензіну на месяц бясплатна, а літр паліва на АЗС каштуе 16 цэнтаў. Кыргызстан практычна не развівае свае радовішчы нафты, у чым Беларусь магла б паўдзельнічаць. А ў Казахстане, паводле Газеты.ru, «былі ўзгодненыя асноўныя параметры здзелкі па пастаўках казахскай нафты ў Беларусь».

Відавочна, што ў 2020 годзе Расія не запусціць «Паўночны паток–2». Таму пастаўкі газу ў Еўропу, ва ўмовах спрэчкі «Газпраму» з Украінай, пад пагрозай, з чаго Беларусь можа атрымаць свае выгады як асноўны транзіцёр. Да таго ж у наступным годзе ў нас плануецца запуск АЭС, якая і стваралася як альтэрнатыва газавым пастаўкам.

Таму гандлявацца ёсць за што — нават без той самай «паглыбленай інтэграцыі». Дый беларускі бюджэт на наступны год фарміруецца без уліку магчымых інтэграцыйных бонусаў.




> **Трэба прыкладаць высілкі, каб давесці да кіраўніцтва: большасць беларусаў — за тое, каб жыць у сваім доме**

Сацыялогія. Расійская газета «Коммерсантъ» 28 лістапада апублікавала дадзеныя сацапытання, паводле якіх 57,6% беларусаў выступаюць за саюзніцкія адносіны з Расіяй, 31,8% — за партнёрскія. Апытанне, нібыта, праводзіў расійскі Дзяржаўны інстытут міжнародных адносінаў — знакаміты МГИМО. Для гэтага расіянам давялося зрабіць 7 тысяч званкоў, цалкам анкету запоўнілі 500 рэспандэнтаў.

МГИМО, можа быць, і знакамітая ВНУ, але да гэтага ніводнага разу не была заўважаная ў правядзенні сацапытанняў. Незразумела таксама, чаму з 7000 апытаных «анкету цалкам запоўнілі 500 рэспандэнтаў». Ці азначае гэта, што з 14-ці беларусаў на пытанне пра стасункі з Расіяй без нецэнзурных словаў адказаў толькі адзін чалавек? А астатнія 13 далі адказ, які расійскіх «сацыёлагаў» не задаволіў?

Ёсць яшчэ багата чыннікаў, якія ставяць пад сумнеў дзейснасць дакументаў, што будуць (а можа, і не будуць) падпісаныя Пуціным і Лукашэнкам 8 снежня. А значыць, гэта дае беларускаму кіраўніцтву час, каб зноў цягнуць інтэграцыйную валынку. У гэтым ёсць плюсы, але ёсць і мінусы: «Саюзная дамова» ж адгукнулася нам непрыемнасцямі праз 20 гадоў!

Так што паспалітаму люду, які не жадае ніякай інтэграцыі з Расіяй і выступае за захаванне незалежнасці і суверэнітэту Беларусі, расслабляцца рана. Для скасавання той самай «інтэграцыі» падыдуць любыя сродкі: вулічныя выступы, петыцыі з пратэстамі, нават судовае аспрэчванне прынятых дакументаў. Усё гэта ўплывае на фарміраванне грамадскай думкі. Лукашэнка — палітык-папуліст, ён адчувае грамадскую думку і кажа тое, што «ў трэндзе» ў народа. І таму настроі грамадства таксама ўплываюць на яго. Чым больш відавочных і рэзанансных выступаў у падтрымку незалежнасці краіны — тым мацнейшы ціск на ўладу, тым большы шанец, што ніякай «паглыбленай інтэграцыі» не будзе.

Таму трэба прыкладаць высілкі, каб давесці да кіраўніцтва: большасць беларусаў — за тое, каб жыць у сваім доме. І гэта ў век інфармацыйных тэхналогій можа зрабіць кожны.


Фота www.2go2go.ru

# «Фоткай за правы чалавека!»

НЧ

**З нагоды Дня правоў чалавека, які адзначаецца 10 снежня, праваабарончая пляцоўка «Тэрыторыя правоў» абвясціла конкурс фотаздымкаў.**

Па ўмовах конкурсу неабходна крэатыўна сфатаграфавацца з Дэкларацыяй правоў чалавека альбо з якім-небудзь артыкулам дэкларацыі і выкласці фотаздымак у свае сацыяльныя сеткі з хэштэгамі #ФоткайЗаПравыЧалавека #ФоткайЗаПЧ. Па хэштэгах арганізатары змогуць адсачыць удзельнікаў, падвесці вынікі і ўзнагародзіць самага крэатыўнага ўдзельніка прызам — паўэрбэнкам. Уручэнне прыза адбудзецца 10 снежня на пляцоўцы «Тэрыторыі правоў».

Каманда «Тэрыторыі правоў» зладзіла 3 снежня раздачу Дэкларацыі правоў студэнтам БДУ, падчас якой запрасіла моладзь далучыцца да конкурсу. Але ўдзельнічаць у конкурсе можа любы жадаючы.

Дзень правоў чалавека святкуецца па прапанове Генеральнай Асамблеі ААН штогод, 10 снежня, пачынаючы з 1950 года. У гэты дзень у 1948 годзе Генеральная Асамблея ААН прыняла Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека.

«Тэрыторыя правоў» — праваабарончая суполка ў Мінску, якая ладзіць адукацыйныя, асветніцкія, культурныя мерапрыемствы па тэматыцы правоў чалавека.

# У магілёўскай калоніі асуджаны абвясціў галадоўку

**У магілёўскай калоніі №15 асуджаны Аляксей Манкевіч абвясціў галадоўку. Яму адмовілі ў скарачэнні тэрміну па амністыі.**

Вядома, што асуджанаму каля 27 гадоў і родам ён з Жодзіна. Аляксей Манкевіч быў асуджаны за куплю марыхуаны па мінімуму часткі 3 артыкула 328 КК Беларусі «Незаконны абарот наркотыкаў» (раней мінімум складаў 8 гадоў пазбаўлення волі).

Акрамя амністыі ў сувязі з 75-годдзем вызвалення Беларусі, абвешчанай у чэрвені гэтага года, улады таксама прынялі папраўкі ў Крымінальны кодэкс, знізіўшы ніжнюю мяжу пакарання па ч. 2 і ч. 3 артыкула 328 на два гады: з пяці да трох гадоў па частцы 2 (незаконны з мэтай збыту абарот наркотыкаў) і з 8 да 6 гадоў па частцы 3 (тыя ж дзеянні, учыненыя групай асоб або паўторна).

На зніжэнне тэрміну менавіта на два гады разлічваў і Манкевіч. Аднак з невядомай прычыны суд знізіў яго пакаранне толькі на год (альбо яшчэ менш). Ніякага абгрунтавання такога рашэння асуджанаму не прад'явілі.

Раней Манкевіч не быў злосным парушальнікам рэжыму і сур'ёзных спагнанняў не меў. Таму ў адказ ён і заявіў аб пачатку галадоўкі пратэсту, пра што прасіў паведаміць сваёй маці праз іншых асуджаных.

На сённяшні вядома, што адміністрацыя ПК-15 у адказ адправіла нязгоднага ў штрафны ізалятар (ШІЗА) і не надае інцыдэнту ніякай агалоскі. Манкевіч сядзіць у камеры-адзіночцы.

Каб прымусіць яго спыніць галадоўку, адміністрацыя калоніі таксама прымае меры па арганізацыі калектыўнай адказнасці сярод іншых асуджаных. Гэта значыць, што іншых арыштантаў, якія знаходзяцца ў бараку ўзмоцненага рэжыму (БУР) — яны ўжо лакалізаваныя ад іншых асуджаных за неналежныя паводзіны, — пазбаўляюць некаторых выгод на перыяд галадоўкі Манкевіча. Такім чынам, яны павінны паўплываць на пратэстоўца і пераканаць яго адмовіцца ад сваіх намераў. З гэтай мэтай Манкевіча некалькі разоў пераводзілі з камеры ў камеру.

**Паводле mspring.online**

# «Небяспечны намер кіраўнікоў Расіі і Беларусі...»

Сяргей НАВУМЧЫК

**Падпісанты Віленскага мемарандуму 2012 года, прадстаўнікі дэмакратычных партый, рухаў, грамадзянскай супольнасці Беларусі разам з Радай Беларускай Народнай Рэспублікі прынялі сумесную заяву «Аб пагрозе незалежнасці Беларусі».**

Палітыкі і грамадскія дзеячы звярнулі ўвагу беларускага народа і міжнароднай супольнасці на «небяспечны намер кіраўнікоў Расіі і Беларусі Уладзіміра Пуціна і Аляксандра Лукашэнкі падпісаць 8 снежня дамовы, якія замацоўваюць залежнасць Беларусі ад Расіі ды патэнцыйна пагражаюць самому далейшаму існаванню Беларусі як незалежнай суверэннай дзяржавы».

Нагадаўшы, што «беларускі народ стагоддзямі змагаўся за сваю незалежную дзяржаўнасць, паклаўшы ў барацьбе спачатку з Расійскай, а затым з камуністычнай савецкай імперыяй незлічоную колькасць жыццяў», падпісанты падкрэслілі, што «лёсавызначальныя для беларускага народа пагадненні рыхтуюцца ў поўнай сакрэтнасці, без якіх бы ні было кансультацый з прадстаўнікамі грамадскасці. Ніводзін праект дакумента не апублікаваны. Нават "дэпутаты парламента" не здолелі атрымаць хаця б мінімальную інфармацыю ад ураду Беларусі».

Аўтары заявы звяртаюць увагу на тое, што прыхільнікі беларуска-расійскай інтэграцыі спасылаюцца на праведзены ў Беларусі рэферэндум, адным з пытанняў якога была эканамічная інтэграцыя з Расіяй. «Але рэферэндум быў прызначаны насуперак Канстытуцыі і заканадаўству, у тым ліку шляхам збіцця збройнымі падраздзяленнямі спецслужбаў дэпутатаў апазіцыі непасрэдна ў зале парламента, ён праходзіў са шматлікімі фальсіфікацыямі і не з'яўляецца сапраўдным волевыяўленнем беларускага народа», — гаворыцца ў заяве.

Таксама адзначаецца, што «ад моманту абрання Лукашэнкі прэзідэнтам у 1994 годзе, у Беларусі не было свабодных і справядлівых выбараў, а ў лістападзе 1996 адбыўся канстытуцыйны пераварот, і парламент быў гвалтоўна распушчаны. У часе апошняй выбарчай кампаніі ў "Палату прадстаўнікоў" значная частка непраўладных кандыдатаў не была дапушчаная да рэгістрацыі, нідзе назіральнікі не былі дапушчаныя да падліку галасоў, на шмат якіх участках зафіксаваныя іншыя парушэнні. У "парламент" не прапушчаны ніводзін непраўладны кандыдат. Такім чынам, у Беларусі няма легітымнай заканадаўчай улады, а значыць, любыя дамовы, падпісаныя цяперашняй уладай, апрыёры неканстытуцыйныя».

Аўтары заявы нагадваюць пра добраахвотную адмову Беларусі ад ядзернай зброі ў пачатку 1990-х гадоў і прыгадваюць Будапешцкі мемарандум, паводле якога ЗША, Вялікабрытанія і Расія далі Беларусі гарантыі суверэнітэту. «Аднак абмежаванне суверэнітэту Беларусі аж да пагрозы інкарпарацыі з боку Расіі, якая пад уладай Пуціна вядзе палітыку агрэсіўнай ваяўнічай імперыі, можа стварыць прынцыпова іншую і вельмі небяспечную геапалітычную сітуацыю ў Еўропе: расійскае войска апынецца на 600 кіламетраў бліжэй да еўрапейскіх сталіц», — адзначаецца ў заяве.

Падпісанты пацвердзілі пазіцыю, якая была заяўленая ў Віленскім мемарандуме 2012 года: «Суб'ектам і першасным гарантам незалежнай дзяржаўнасці Беларусі і нацыянальна-культурнай перспектывы беларусаў ёсць сам беларускі народ, які павінен сцвярджаць сваю палітычную волю ва ўмовах свабоды», і заклікалі дэмакратычныя краіны свету «асудзіць любыя спробы Расійскай Федэрацыі абмежаваць суверэнітэт Беларусі, выкарыстоўваючы адсутнасць у Беларусі дэмакратычна выбранай улады, а таксама выступіць з ініцыятывай гарантый незалежнасці Беларусі на міжнародна-праўнай аснове».

Заяву падпісалі старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, старшыня ТБМ Алена Анісім, былы старшыня Вярхоўнага Савета 12-га склікання Станіслаў Шушкевіч, старшыня партыі БНФ Рыгор Кастусёў, намеснік старшыні КХП-БНФ Юрась Беленькі, Вінцук Вячорка і Анатоль Лябедзька, сустаршыня аргкамітэту БХД Павел Севярынец, сустаршыня Руху салідарнасці "Разам" Алена Талстая, выканаўца абавязкаў старшыні АГП Мікола Казлоў. Пазней да падпісантаў далучыліся кіраўнік руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч, сябра Рады Беларускага нацыянальнага кангрэсу Вячаслаў Сіўчык, прадстаўнік грамадзянскай ініцыятывы «Свежы вецер» Уладзімір Мацкевіч, экс-кандыдат у прэзідэнты, паэт Уладзімір Някляеў і старшыня партыі «Зялёныя» Анастасія Дарафеева.

**Паводле svaboda.org**

# За выбарчую кампанію — штрафы

**У Першамайскім судзе Мінска 2 снежня асудзілі ўдзельнікаў перадвыбарчых мітынгаў. Агульная сума штрафаў — 175 базавых велічынь.**

У Першамайскім судзе па справах удзельнікаў акцый, якія адбываліся падчас выбарчай кампаніі, былі вынесены прысуды. Усіх актывістаў прысудзілі да штрафаў.

Суддзя Таццяна Ліннік, якая разглядала справу Ніны Багінскай, палічыла, што актывістка здзейсніла адміністрацыйнае правапарушэнне, і прызначыла ёй штраф у 50 базавых велічынь.

Суд прызнаў Дзяніса Красачку вінаватым у здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння і аштрафаваў яго на 25 базавых велічынь.

Вольга Нікалайчык не прыйшла на суд. Яе справу разглядала Ганна Ігнацьева. Вольгу Нікалайчык судзілі за ўдзел у масавым мерапрыемстве 16 лістапада. У матэрыялах справы ў якасці доказу суд прагляда відэазапіс з акцыі, якая прайшла... 8 лістапада! На відэа гучыць песня «Тры чарапахі».

Сведкамі выступілі супрацоўнікі АМАПу Місюлін і Трышкін. Яны сцвярджалі, што падчас свайго дзяжурства ўбачылі масавае мерапрыемства на Кастрычніцкай плошчы, а «мерапрыемствы ж там забароненыя». Дзве справы — за 8 лістапада і за 16 лістапада — аб'ядналі. У выніку Вользе Нікалайчык суд прызначыў штраф у 50 базавых велічынь.

Справу Леаніда Кулакова разглядала суддзя Святлана Чараповіч. Актывіст таксама быў пакараны штрафам у 50 базавых велічыняў і цяпер мусіць папоўніць бюджэт на 1250 рублёў.

Усяго ад 2 снежня да 14 снежня толькі ў судах Мінска запланаваны судовыя пасяджэнні ў дачыненні да прыкладна дваццаці актывістаў.

Юрыст праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч упэўнены, што гэтыя суды можна разглядаць у якасці рэпрэсіяў. «Мы такім чынам падкрэсліваем іх сувязь з выбарамі. Бо яны тычацца тых падзей, якія былі падчас выбараў, а не цяпер. І гэта фактычна такі класічны поствыбарчы перыяд, у які мы назіраем рост рэпрэсій. Фактычна ўлада такім чынам адпомсціла тым, хто прымаў актыўны ўдзел у гэтых выбарах і рабіў нешта тое, што ўладам не падабалася», — адзначыў ён.

**Паводле spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Час выжывання

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Пакуль усе панікуюць з нагоды незразумелых дарожных картаў па інтэграцыі, якія павінны падпісаць Лукашэнка і Пуцін, у краіне назіраюцца больш трывожныя тэндэнцыі. Можа стацца нават так, што ніякая інтэграцыя нас не выратуе.**

Урад Беларусі, канешне, поўны надзеяў і планаў. Праект бюджэту на 2020 год ужо перадалі ў Савет рэспублікі, і нават там абмеркавалі. Калі ў Палаце прадстаўнікоў больш увагі надавалі расходам краіны ў будучым годзе і дэфіцытам грошай, то нашы «сенатары» цікавіліся палітыкай — а дакладней, «сацыяльнай скіраванасцю» выдаткаў дзяржавы. Міністр фінансаў Максім Ермаловіч запэўніваў прысутных, што з гэтым — усё нармальна. Сярэдні заробак у бюджэтным сектары ў 2020 годзе павінен перавысіць 920 рублёў, казаў ён журналістам.

Па словах міністра, плануецца павышаць зарплату ў ахове здароўя, ёсць планы па павышэнні заробкаў у сферы адукацыі, неабходна падцягваць і нізкааплатныя катэгорыі насельніцтва, якія атрымліваюць параўнальна невысокую зарплату.

«У бюджэтнай сферы мы павышаем заработную плату апераджальнымі тэмпамі, таму што ў папярэднія гады рост заробкаў бюджэтнікаў адставаў ад тэмпаў росту заработнай платы ў цэлым у эканоміцы. Гэта адставанне неабходна наганяць, тым больш, неабходна вырашаць задачу па забеспячэнні суадносін зарплаты ў бюджэтным сектары і сярэдняй заработнай платы ў краіне не ніжэй за 80%», — растлумачыў Ермаловіч.

У гэтым ёсць трывожныя ноткі. Па-першае, ужо колькі разоў нас перасцерагалі ад таго, каб заробак не апяраджаў узровень вытворчасці, — то-бок, каб мы не ўкідвалі ў эканоміку назаробленыя грошы. Калі ў краіне ВУП расце на паўтара працэнты, узнікце любых заробкаў выглядае менавіта так.

Па-другое, ужо неаднаразова казалася, што «сярэдні ўзровень заробку» — гэта як «сярэдняя тэмпература па бальніцы», калі ў цэлым усе здаровыя. З бюджэту фінансуюцца дактары і настаўнікі, — а таксама міліцыянты і дэпутаты. Заробкі гэтых катэгорый «працоўных» (у двукоссях — бо вельмі сумніўна, што дэпутата можна лічыць працоўным) непараўнальныя. І «сярэдні заробак у бюджэтнай сферы» ў такім выпадку — не эканамічная, а, хутчэй, фантастычная катэгорыя.

Па-трэцяе, у народзе задаюцца пытаннем: можна навучыць мядзведзя ездзіць на ровары, але ці будзе ад гэтага мядзведзю карысць і задавальненне? Тобок, ці адаб'ецца падвышэнне заробку на дабрабыце людзей?

Статыстыка Нацбанка ў гэтым плане засмучае. З пачатку года даўгі беларусаў перад банкамі выраслі на 2 мільярды рублёў. Паводле дадзеных Нацбанка, на 1 лістапада гэтага года беларусы завінаваціліся банкам 13 мільярдаў 599 мільёнаў рублёў. У гэтую суму ўваходзяць спажывецкія крэдыты, крэдыты на нерухомасць і аўто, а таксама карты растэрміноўкі.

У параўнанні з папярэднім месяцам аб'ём крэдытнай запазычанасці вырас на 255 мільёнаў рублёў, а з лістападам мінулага года — на 2 мільярды 431 мільён рублёў. Што цікава, запазычанасць па крэдытах на спажывецкія патрэбы на 1 лістапада склала 5 мільярдаў 363 мільёны рублёў, — то-бок, блізу 40% ад усёй запазычанасці.

Гэта азначае, што беларусы не могуць сабе дазволіць даволі простыя «спажывецкія» рэчы, без таго, каб не пазычаць па іх дадатковыя грошы. І нават калі будзе павышэнне заробкаў

**З бюджэту фінансуюцца дактары і настаўнікі, — а таксама міліцыянты і дэпутаты. Заробкі гэтых катэгорый непараўнальныя. І «сярэдні заробак у бюджэтнай сферы» ў такім выпадку — не эканамічная, а, хутчэй, фантастычная катэгорыя**

— грошы пойдуць не на ўмацаванне сямейных бюджэтаў, а на аплату раней узятых крэдытаў.

Каб стрымаць крэдытны бум, у мінулым годзе Нацбанк увёў некаторыя абмежаванні па крэдытах. У галоўным банку не выключаюць, што могуць пайсці і на дадатковыя абмежаванні, калі тэмпы крэдытавання паскорацца.

Што такое «спажывецкі крэдыт» і «крэдыт па картках растэрміноўкі»? Зазвычай ён бярэцца на простыя рэчы ў перыяд найбольшых выдаткаў — напрыклад, каб падрыхтаваць дзіця да школы. Гэтая падрыхтоўка і ўлятае ў капейчыну, хаця, здавалася б, адукацыя ў нас бясплатная.

Між тым, сёлета мы пабачылі, да чаго нас прывяло бясконцае рэфармаванне школы і навучальных праграмаў. Зазвычай мы ганарыліся нашай сістэмай адукацыі як ці не самай лепшай. На самай справе, апынуліся «ў сярэднячках».

У мінулым годзе краіна далучылася да Міжнароднай праграмы ацэнкі ведаў PISA, якая праводзіць тэставанне ключавых ведаў і навыкаў 15-гадовых школьнікаў. Вынікі тэстаў даюць уяўленне пра ўзровень сярэдняй адукацыі ў краіне, а таксама пра дынаміку яе развіцця ці рэгрэсу. Праз тэставанне ў Беларусі прайшлі 5803 дзесяцікласнікі з 234 школ. Па метадыцы PISA, яны прэзентавалі вынікі 78 333 падлеткаў (а гэта 88% тых беларусаў, якім на той момант было 15 гадоў). Галоўным прадметам даследавання ў 2018 годзе стала чытанне — з дадаваннем матэматыкі, прыродазнаўчых навук і так званых глабальных кампетэнцый — навыкаў, каштоўнасцяў і мадэляў паводзінаў, з дапамогай якіх маладыя людзі могуць атрымаць поспех у сучасным свеце.

У блоку «Чытанне» беларускія школьнікі набралі 474 балы. Гэта — 35 месца з 79 магчымых. У блоку «Матэматыка» нашыя шкаляры набралі 472 балы, і гэта 38-ы вынік. У натуральных навуках сярэдні бал беларусаў — 471. Гэта 37-ы вынік з 79 краін.

Калі ў краіне з абавязковай сярэдняй адукацыяй 15-гадовыя школьнікі так-сяк умеюць чытаць — нешта не тое ў нас з адукацыяй. Міністр-камуніст Ігар Карпенка павінен пасыпаць попелам галаву і каяцца ў развале школы. Але наўрад ці мы гэтага ад яго дачакаемся.

Падаецца, ён павінен быць галоўным лаўрэатам адноснa новай і пакуль яшчэ малавядомай антыпрэміі для чыноўнікаў, якую ладзіць міжнародны фестываль дакументальнага кіно аб правах чалавека Watch Docs Belarus.

Антыпрэмію пад назвай «Watch Docs пазначыў» чыноўнікам за іх вар'яцкія рашэнні і дзеянні «ўручаюць» другі год запар. Як кажуць арганізатары, антыпрэмія выконвае адразу некалькі функцый. Па-першае, гэта выдатны спосаб пасмяяцца. Па-другое — нагода лішні раз нагадаць аб правах чалавека. А па-трэцяе, верагодна, так чыноўнікі даведаюцца, дзе дапусцілі памылкі, — і зразумеюць, што беларусам не ўсё роўна.

Галасаванне праводзіцца ў групе фэсту ў Facebook, а таксама ў час паказаў на самім фестывалі. Пераможцаў абвесцяць 13 снежня ў Мінску ў прасторы ОК16. Так што яшчэ ёсць магчымасць абраць самага-самага небараку ў гэтай галіне.

Але праблема ў тым, што ўлада ў Беларусі аўтарытарная: усім кіруе адзін чалавек. І адказвае за ўсе рашэнні, атрымліваецца, таксама ён. І, адпаведна, любая «антыпрэмія» — таксама яго.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Ганна Канапацкая

**Былая дэпутатка Палаты прадстаўнікоў, што прапанавала скандальны законапраект аб гарантыях кіраўніку дзяржавы пасля яго сыходу з пасады (у якім прадугледжвалася ці не поўная недатыкальнасць гэтай асобы), была канчаткова выключана з Аб'яднанай грамадзянскай партыі.**



Нагадаем, што Канапацкую і раней спрабавалі выключыць з АГП за дзеянні, несумяшчальныя з партыйным сяброўствам — калі ад яе імя было заяўлена пра стварэнне новага руху «Наперад, Беларусь». Таксама ёй закідалі невыкананне абавязальніцтваў па прасоўванні зменаў у выбарчае заканадаўства. Але тады дэпутатку ў партыі ўсё ж пакінулі.

Сама экс-дэпутатка заявіла, што яна «была першым прадстаўніком апазіцыі ў Палаце прадстаўнікоў, а зараз першая рэпрэсаваная за свае дэмакратычныя погляды».

Наконт «першага прадстаўніка апазіцыі ў ППНС» з ёй бы магла паспрачацца не толькі Алена Анісім, але і Сяргей Скрабец ды Уладзімір Парфяновіч (Валер Фралоў — ужо нябожчык). Дый «першая рэпрэсаваная за свае палітычныя погляды» — таксама недарэчна.

Апроч таго, вялікае пытанне, як законапраект Канапацкай пра імунітэт былога кіраўніка дзяржавы ад судовага пераследу і расследавання яго дзейнасці стасуецца з дэмакратычным прынцыпам роўнасці ўсіх перад законам.



## Андрэй Уцюрын

**КДБ завяршыла расследаванне крымінальнай справы, галоўным фігурантам якой з'яўляецца былы намеснік дзяржсакратара Савета бяспекі Беларусі.**

Яго абвінавачваюць у атрыманні хабару ў агульнай суме не менш за 190 тысяч долараў і ў падбухторванні да хабараў.

Як паведамляе прэс-служба КДБ, службовымі асобамі прымаліся хабары за заключэнне дамоваў, якія прадугледжвалі мадэрнізацыю тэлекамунікацыйнага апаратна-праграмнага комплексу і пастаўку абаненцкіх прыставак з убудаваным модулем Wi-Fi; закупку ліцэнзій для тэлекамунікацыйнага абсталявання, праграмнага забеспячэння і абароны інфармацыі; закупку абсталявання маршрутызацыі для цэнтральных вузлоў перадачы дадзеных абласных філіялаў РУП «Белтэлекам»; набыццё абсталявання бяздротавай перадачы дадзеных на аснове тэхналогіі Wi-Fi, пашырэння галаўной станцыі IPTV і іншае.

Усяго па крымінальнай справе толькі ў хабарнікаў канфіскавана больш за 1 мільён 650 тысяч долараў (у тым ліку ў аблігацыях), 62 тысячы еўра, больш за 1 кілаграм золата.

Пасля азнаямлення абвінавачаных з матэрыяламі, крымінальная справа будзе перададзеная ў Генеральную пракуратуру для накіравання ў суд. А грамадства задаецца пытаннем: якое дачыненне Савет бяспекі мае да «Белтэлекаму» і як можна было столькі скрасці?

## Настасся Вашукевіч (Насця Рыбка)

**Наша скандальная суайчынніца не стала дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, але спрабуе перакваліфікавацца ў поп-зорку. На YouTube апублікаваны яе першы музычны кліп.**



У кліпе разам з Рыбкай зняўся Рома Жолудзь, папулярны расійскі відэаблогер. Пакуль у твора прыкладна аднолькавая колькасць падабаек і адмоўных водгукаў.

Ураджэнка Бабруйска зараз жыве ў Маскве. Яна трапіла ў загалоўкі навін пасля выхаду расследавання «Фонду барацьбы з карупцыяй» Аляксея Навальнага, прысвечанага расійскаму мільярдэру Алегу Дзерыпаску. Часткова расследаванне грунтавалася на фота і відэа з інстаграм-акаўнта дзяўчыны. Пасля гэтага Рыбку разам з яе партнёрам Алексам Леслі (дарэчы, таксама выхадцам з Беларусі) затрымалі ў Тайландзе за арганізацыю секс-трэнінгу. Паўгода яна правяла ў тайскай турме, а па вяртанні ў Маскву ў студзені 2019 года была зноў затрыманая — па крымінальнай справе аб уцягванні ў прастытуцыю.

Тады за дзяўчыну заступіўся персанальна Лукашэнка. Не так даўно Рыбка нават заяўляла пра магчымасць сустрэчы з кіраўніком краіны.

# «Рэйдарскі захоп»: ці паўстане грамадзянскі супраціў інтэграцыі з Расіяй?

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Напярэдадні падпісання дарожных картаў інтэграцыі Беларусі і Расіі «Новы Час» спытаў грамадскіх і палітычных дзеячаў пра пагрозы, якія гэта нясе нашай незалежнасці, а таксама пра тое, як на іх мусіць рэагаваць грамадзянская супольнасць.**

**Анатоль Лябедзька, дырэктар цэнтра «Еўрапейскі дыялог», экс-старшыня АГП:**

— Фізічная прысутнасць Расійскай Федэрацыі побач з Беларуссю ўжо з'яўляецца пагрозай. Не гаворачы пра пагрозы эканамічнай інтэграцыі і яе палітычную падаплёку. На самай справе, усе гэтыя рызыкі і выклікі — рэч перманентная, мы бачым перыяды, калі іх інтэнсіўнасць узрастае, а ёсць часы, калі яна лакалізуецца



і змяншаецца. Цяпер мы бачым новы пік выклікаў. Мы жывём у вулканічнай мясцовасці, толькі замест шкалы Рыхтара ў нас палітычная шкала Лукашэнкі — Пуціна. І цяпер памаранчавы ўзровень пагрозы, я б сказаў, у 7–8 балаў, паколькі Пуціну патрэбна рэалізацыя сцэнару транзіту ўлады, і Беларусь вельмі прывабная для гэтага.

Я не належу да тых, хто лічыць, што 8 снежня мы станем часткай Расійскай Федэрацыі. Але нават калі дарожныя карты будуць падпісаныя не ў поўным аб'ёме і гаворка ў іх будзе ісці пра нешта «траваеднае» — той жа Падатковы і Грамадзянскі кодэксы, — гэта ўсё роўна ёсць пагрозай. Бо мы разумеем, што ў гэтых перамовах ёсць вядучы і той, каго вядуць, і мы ведаем, хто ёсць хто. Мы цяпер у той сітуацыі, што лепей дзьмуць на халодную ваду. І многае залежыць не толькі ад беларускіх уладаў, але і ад грамадзянскай супольнасці, ад нашай здольнасці дэманстраваць, што ніякі аншлюс тут не пройдзе.

Патрэбна яснае пасланне для Крамля, што, калі адбудзецца сцэнар нейкага захопу, то тут людзі возьмуць зброю і будуць абараняць сваю зямлю. Усе перадавіцы газет і сайтаў павінны казаць пра тое, што пэўныя людзі і супольнасці гатовыя да абароны незалежнасці ўсімі магчымымі спосабамі. Гэта павінна быць паўсюль — у СМІ, у сацыяльных сетках, у абмеркаваннях. Бо тая ж Расія робіць зрэз грамадскай думкі, і вельмі важна, каб гэты пасыл зафіксавалі. Што, пры пэўных умовах, пасля першага ўкраінскага фронту можа з'явіцца першы беларускі фронт. Таксама павінна быць дэманстрацыя вулічная — гэта будзе ціск на беларускія ўлады, бо без гэтага яны атрымаюць поўны карт-бланш.

Што тычыцца ўладаў, тут больш складана. Для Лукашэнкі суверэнітэт не ёсць каштоўнасцю, для яго каштоўнасць — яго асабістая ўлада. Але цяпер такі час, што інтарэсы Беларусі і асабістая ўлада Лукашэнкі супадаюць. Галоўнае дасягненне Лукашэнкі за 25 гадоў — прыхватызацыя ўлады, бюджэту і пазабюджэтных рэсурсаў, а Пуцін прапануе яму дэпрыватызацыю і перадачу часткі ўлады. Натуральна, гэта не ў інтарэсах Лукашэнкі. Але за 25 гадоў ён не імкнуўся стварыць інстытуты абароны незалежнасці — эфектыўную эканоміку, моцную грамадзянскую супольнасць. Таму [уся гэтая сітуацыя] будзе працягваць вельмі моцна смярдзець.

**Ганна Севярынец, настаўніца, літаратуразнаўца, пісьменніца:**

— Якімі б ні былі дарожныя карты, анансаваныя ўладамі дзвюх краін, і сам факт іх распрацоўкі, і любыя прапановы ды мерапрыемствы, у іх адлюстраваныя, уяўляюць сабой прамую пагрозу незалежнасці Беларусі, бо падпарадкоўваюць нашы ўласныя інтарэсы інтарэсам чужой краіны. Зразумела, што дэ-факта і эканоміка Беларусі, і палітыка, і масавая культура ўжо і без таго па вушы інтэграваныя, але з усяго гэтага з цягам часу можна выблытацца, калі мы будзем самастойнай дзяржавай. З любых



паглыбленняў выблытвацца нам будзе значна цяжэй. Відавочна, што 8 снежня не будзе нічога гэтакага «ў лоб», але кожны крок у напрамку інтэграцыі ёсць крокам у дрыгву, і невядома, калі будзе пройдзеная кропка незвароту. Таму асабіста для мяне як для грамадзянкі суверэннай краіны любыя інтэграцыйныя рухі — гэта прамая пагроза.

Я не бачу для нас, людзей без улады, іншага шляху акрамя грамадзянскага супраціву — культурніцкага, асветніцкага, сацыяльнага, а хто ўмее і можа — то і палітычнага. Актыўна, на мяжы сіл і магчымасцяў, пераходзіць на беларускую мову на вуліцы, дома, у сям'і. Падтрымліваць нашы культурныя і грамадскія ініцыятывы. Спакойна, без абразаў (гэта надзвычай важна!) тлумачыць сваю пазіцыю тым, хто яшчэ вагаецца. Далучацца



да асветніцкіх і сацыяльных праектаў, і не толькі ў абарону незалежнасці, але і наогул — у абарону свайго. Выказвацца. Не баяцца. Выключыць для сябе ўдзел у фальсіфікацыях любога ўзроўню і кірунку. Рабіць усё, каб нас чулі.

Адносна прапановы абараняць незалежнасць на плошчы я хутчэй не ведаю, а адчуваю. Для мяне вулічныя пратэсты і вулічнае змаганне — не метад. Але калі няма іншай магчымасці быць пачутымі — значыць, застаецца гэты метад як апошні. Не мая і не наша агульная віна, што нас не чуюць без плошчаў.

**Віктар Карняенка, палітычны эксперт:**

— Відавочна, з кожным годам пагрозы паглынання Беларусі Расіяй павялічваюцца. За ўсю гісторыю прэзідэнцтва Лукашэнкі можна вылучыць тры перыяды так званай «інтэграцыі», альбо «саюзнага будаўніцтва». Першы, калі Лукашэнка, умоўна кажучы, аблізваючыся на «шапку Манамаха» пры старэючым Ельцыне, лічу, быў



згодны на ўваход Беларусі ў склад Расіі, і нават прыспешваў працэс. Аблом здарыўся, калі Ельцын фактычна перадаў гэтую шапку Пуціну. Памятаю навагодняе віншаванне Лукашэнкі, якое адбылося якраз у той час. Больш разгубленым яго да гэтага часу не бачыў.

Другі можна назваць дэмагагічным, альбо «нафта ў абмен на пацалункі». Лукашэнка, разумеючы, чым для яго асабіста можа скончыцца гэтая «інтэграцыя», пераводзіў яднанне ў чыста эканамічныя стасункі. Новаму расійскаму кіраўніцтву пэўны час, па вялікім рахунку, было не да Беларусі, яно вырашала свае ўласныя праблемы, што называлася «ўставаннем з кален». Канешне, увесь час Крэмль павялічваў залежнасць ад сябе аўтарытарнага правіцеля Беларусі. Канцом дэмагогіі былі славутыя «мухі з катлетамі», калі Пуцін наўпрост запатрабаваў увайсці Беларусі ў склад Расіі.

З таго часу пачаўся трэці перыяд — прымус Лукашэнкі вярнуцца да ягоных абяцанак эпохі Ельцына, калі былі прынятыя неразумныя рашэнні кшталту агульнай Канстытуцыі, наднацыянальных органаў і г.д. Сёння карціна выглядае так, што Лукашэнку будзе вельмі цяжка выкруціцца і вылезці з той пасткі, у якую ён улез сам і ўцягнуў народ Беларусі. Відаць, ён гэта і сам разумее, але жыўца заглынуў ужо вельмі глыбока. Мяркую, шантаж з боку Расіі можа быць не толькі эканамічным, але і заснаваным на кампрамаце, звязаным з асобай Лукашэнкі, пагрозамі адмовы ў палітычнай падтрымцы, без якой, дарэчы, імпічмент адбыўся б яшчэ ў 1996 годзе. Сітуацыя сёння больш чым сур'ёзная, але, нягледзячы на гэта, «гарант» нават і не спрабуе кансалідаваць грамадства на абарону суверэнітэту, а сам працэс «інтэграцыі» ідзе ў кулуарным міжсабойчыку.

Перадусім палітыкам трэба аб'яднаць свае высілкі і дзейнічаць калектыўна. Насамрэч, інструментаў уздзеяння на сітуацыю ў іх няшмат. Гэта толькі апеляцыя да грамадства з тлумачэннем магчымых наступстваў «інтэграцыі» і звароты да міжнароднай супольнасці выканаць свае абяцанні, напрыклад, па Будапешцкім мемарандуме. Тут ёсць нагода ўзгадаць толькі што прайшоўшыя «выбары», зафіксаваныя парушэнні і высновы місіі міжнародных назіральнікаў. Усё гэта ставіць пад сумнеў легітымнасць улады ў краіне з усімі вынікаючымі адсюль наступствамі.

Што да грамадства, я нават і не ведаю, ці большасць грамадзян разумее рызыкі, пагрозы і наступствы паглынання Беларусі? Пра гэта сведчаць некаторыя мінулыя сацыялагічныя апытанні незалежных даследчых цэнтраў, дзе большасць, напрыклад, была і за ўступленне ў Еўрасаюз, і адначасова за саюз з Расіяй. Спадзяюся, грамадзян насцярожылі, а то і напалохалі дзеянні Расіі ў суседняй Украіне, сацыяльна-эканамічны спад з-за санкцый і карупцыі, гонкі ўзбраенняў, вайна ў Сірыі і іншыя праблемы, якіх мы сёння не маем.

З аднаго боку, канешне, толькі публічныя акцыі могуць звярнуць увагу той жа міжнароднай супольнасці на фактычную анексію нашай краіны агрэсіўным суседам пры нелегітымнай уладзе ў Беларусі. Але эфект ад публічных акцый можа быць не ў нейкім крэатыве, а толькі ў масавасці. Калі пратэставаць выйдзе толькі некалькі соцень грамадзян з 9,5 мільёнаў, прычым толькі ў сталіцы, гэта будзе выглядаць непераканаўча.

Праблема Плошчы істотна ўскладняецца тым, што сёння ў краіне няма відавочнага аўтарытэтнага лідара, здольнага заклікаць і павесці людзей за сабой, як гэта было ў канцы 1980-х і пачатку 1990-х гадоў, калі Зянон Пазьняк быў дзеючым палітыкам.

Прыйшла квітанцыя на аплату за мінулае, і надыходзіць расплата за гульні ў самадастатковасць розных палітычных груповак. Дай Бог, каб я памыляўся. У любым выпадку, перакананы, што абавязкова знойдуцца патрыёты, якія паспрабуюць пратэставаць. Наколькі пратэст будзе магутным, надзею дае, хіба, нядаўні чынны ўдзел беларусаў у перапахаванні свайго нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага.

**Зміцер Дашкевіч, цясляр, экс-старшыня «Маладога фронту»:**

— Расія як знешнепалітычны выклік была, ёсць і, на жаль, яшчэ доўга будзе для Беларусі. Некаторыя людзі ў сувязі з гэтым выдаюць вельмі шмат эмоцый, хаця дыскусія не новая. Ужо гадоў дзесяць чуюцца заклікі падтрымліваць Лукашэнку, бо ён — гарант незалежнасці. Я лічу гэта вар'яцтвам. Ёсць рэчы, якія нам па сілах — напрыклад, размаўляць па-беларуску, а ёсць рэчы, якія нам не па сілах — напрыклад, супрацьстаяць расійскім танкам. І чамусьці тысячы людзей збіраюцца паўстаць супраць расійскіх танкаў, не маючы на тое сіл, але не размаўляюць па-беларуску, маючы на тое сілы. Пра тое, што такое беларуская мова для абароны беларускай незалежнасці, сказаў сам Пуцін: «рускі мір» там, дзе руская мова.

Я думаю, канфлікт паміж Лукашэнкам і Пуціным будзе працягвацца, больш за тое, у ім — наша адзінае выратаванне. Бо, калі яны дамовяцца паміж сабой, — каго пасадзяць, каго вышлюць, каго закапаюць у Курапатах.



Улады не будуць чыніць перашкодаў грамадзянскаму пратэсту, пакуль ён малалікі. Калі б ён пачаў набываць маштаб, як гэта было ў 1996 годзе, гэта ўжо ўспрымалася б — і так і ёсць — як персанальны выклік для Лукашэнкі. Пасля 1995 года з'явіўся выразны падзел на дабро і зло. Сумленны чалавек не можа стаць пад савецкія сімвалы, якія ўводзілі ў парламенце са спецназам.

Праблема выхаду на плошчу палягае ў тым, што апазіцыя дасюль не можа ацаніць рэальнасць, у якой мы знаходзімся. Калі былі «дармаедскія» маршы,

я разважаў, удзельнічаць у іх ці не. Для мяне было незразумела, чаму людзі выходзяць толькі «за сасіску». З іншага боку, яны выходзяць, праяўляюць грамадзянскую пазіцыю, нечага дабіваюцца. Але пасля таго, як я прачытаў на адным змагарскім сайце фармулёўку «заўтра вырашальны дзень у гісторыі беларускага супраціву», зразумеў, што не буду ў гэтым удзельнічаць. Бо людзі, якія заклікаюць да гэтага, 25 гадоў кажуць пра «вырашальны дзень», што выйдзе «ўвесь беларускі народ». Але рэальнасць такая, што, у лепшым выпадку, 500–1000 чалавек могуць у гэтым паўдзельнічаць. Акцыя ў абарону незалежнасці, у якой бяруць удзел пара соцень чалавек, — гэта акцыя супраць незалежнасці. І я ў іх цяпер не ўдзельнічаю. Калі Саветы ўвялі ў Чэхаславакію танкі, і некалькі чалавек выйшлі на Красную плошчу, яны не крычалі, што за імі савецкі народ. Яны сказалі, што ёсць людзі, якія супраць.

Таму апазіцыі трэба цяпер думаць пра тое, як натхніць і ўмацаваць тую невялікую колькасць прыхільнікаў зменаў, якая ёсць. А яна сваімі акцыямі працягвае расчароўваць.

Раней я разважаў, што лепш рабіць хоць нешта, чым нічога. Апошнія пару гадоў я зразумеў, што лепш не рабіць нічога, чым тое, што расчароўвае і дэмаралізуе людзей. Падзеямі, якія натхнялі, былі БНР-100, перапахаванне Каліноўскага і Курапаты. Кожны можа сёння прыйсці ў Курапаты і там стаць. Калі б заўтра туды прыйшлі б 50 000 чалавек, гэта ўмацавала б незалежнасць.

Наша найноўшая гісторыя сведчыць пра тое, што мы ўвогуле — парадокс, бо мы ёсць. Лукашэнка 20 гадоў будуе «саюзную дзяржаву», а мы ўсё роўна ёсць.

**Алесь Лагвінец, палітолаг:**

— Пагрозы для незалежнасці і суверэнітэту Беларусі ёсць, і яны вельмі істотныя. Пагрозы менавіта з боку Расіі, бо яна, як былая метраполія, адназначна глядзіць на нашу незалежнасць як на выпадковасць і цудоўна разумее, што калі не цяпер, дык інкарпарацыя можа ніколі не адбыцца. Зеніт моцы Лукашэнкі, якога яна спансавала і абараняла, прайшоў, «восень патрыярха» стварае новыя магчымасці, каб канчаткова прывязаць «заходні фарпост» да сябе. Тым больш, што Лукашэнка нечакана для Крамля наважыўся бараніць сваю ўладу ды ўладу сваёй сям'і-дынастыі і не хоча рабіць даўно абяцанае.



Мы бачым, што Расія дзейнічае паводле «Мемарандума-ўльтыматума» Мядзведзева. Усім зразумела, што калі рэалізаваць цяперашнія расійскія планы ці тое, што прапісана ў дамове 1999 года, Беларусі як незалежнай палітычнай адзінкі не стане. Бо гэта не выпадак еўрапейскай інтэграцыі, на якую ківае Масква, гэта выпадак рэйдарскага захопу таго, што, у разуменні Крамля, яму належыць, але несправядліва было адасоблена. І пасля 8 снежня Расія будзе працягваць ціск, карыстаючыся слабымі бакамі Лукашэнкі і структурнай залежнасцю нашай эканомікі ад усходняга суседа. Тут усё цыклічна; перадышка, часовая, будзе толькі напярэдадні сама-пера-выбараў Лукашэнкі, але перад гэтым будзе гульня на падвышэнне ставак. Лукашэнкаўцы ж будуць спадзявацца зноў усё забалбатаць ды пера-аднесці.

Грамадства і палітыкі мусяць будаваць агульнанацыянальны давер і згоду па ключавых пытаннях развіцця краіны, мацаваць нашу саматоеснасць праз супольную гісторыю, мову і будучыню і, зразумела, рэфармаваць эканоміку, каб злезці з расійскіх нафтагазавых падачак-кручкоў ды абаперці незалежнасць на свабодную волю грамадзянаў-уласнікаў. Таксама важнае збліжэнне з заходнім светам, каб збудаваць кааліцыю зацікаўленых у беларускай незалежнасці дзяржаваў-сябраў.

Сітуацыя крытычная, таму любыя сродкі, а найперш — масавы мірны пратэст, павінны быць на парадку дня. Мы маем прыклад 1996 года, калі масавы выхад людзей на мінскія вуліцы паказаў, што беларусы так проста не пагодзяцца на рэінкарпарацыю.

# Наіўнасць паміж Масквой і Вашынгтонам

Павел КІРЫЛАЎ

**Будапешцкі мемарандум — розгаласны дакумент, якія падаваўся як прадстаўленне з боку Расіі, ЗША ды Вялікабрытаніі гарантый Беларусі і Украіне непарушнасці іх суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці, — быў падпісаны 25 гадоў таму. Аднак падзеі апошніх гадоў ва Украіне і тыя, што могуць адбыцца неўзабаве ў Беларусі, ператварылі яго ў сімвалічную дыпламатычную дэкларацыю.**



Тым не менш, адны працягваюць апеляваць да Будапешцкага мемарандуму і маральна-палітычна ўшчуваць сусветныя дзяржавы-лідары за невыкананне, другія — шкадаваць наконт яго паспешлівага падпісання, а трэція — даводзяць, што змест мемарандума мае неадназначнае юрыдычнае трактаванне. Што ж такое Будапешцкі мемарандум, і ці сапраўды гэта ўжо састарэлы гістарычны дакумент, не варты актуальнай увагі і надзеяў?

Будапешцкі мемарандум — гэта міжнародная дамова, якая была заключаная 5 снежня 1994 года ў сувязі з далучэннем Беларусі, Украіны ды Казахстану да «Дамовы пра нераспаўсюджанні ядзернай зброі» і выдаленні са сваіх тэрыторый усіх ядзерных узбраенняў. Дакладней, гэта тры мемарандумныя дакументы аднолькавага зместу, падпісаныя гэтымі краінамі з аднаго боку і ЗША, Вялікабрытаніяй і Расіяй з другога. Зацытуем Будапешцкі мемарандум аб гарантыях бяспекі Беларусі.

Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя абавязаліся «паважаць незалежнасць, суверэнітэт і існуючыя межы Рэспублікі Беларусь». У прыватнасці — «устрымлівацца ад пагрозы сілай або яе ўжывання супраць тэрытарыяльнай цэласнасці або палітычнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь і што ніякія іх узбраенні ніколі не будуць выкарыстаны супраць Рэспублікі Беларусь, акрамя як у мэтах самаабароны або якім-небудзь іншым чынам у адпаведнасці са Статутам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый».

Апроч таго, гаворка вялася аб устрыманні «ад эканамічнага прымусу, накіраванага на тое, каб падпарадкаваць уласным інтарэсам ажыццяўленне Рэспублікай Беларусь правоў, уласцівых яе суверэнітэту, і такім чынам забяспечыць сабе перавагі любога роду». Было замацавана і «абавязацельства дабівацца неадкладных дзеянняў Савета Бяспекі ААН па аказанні дапамогі Рэспубліцы Беларусь як дзяржаве — удзельніцы Дамовы аб нераспаўсюдзе ядзернай зброі, якая не валодае ядзернай зброяй, у выпадку, калі Рэспубліка Беларусь стане ахвярай акту агрэсіі або аб'ектам пагрозы агрэсіі з прымяненнем ядзернай зброі».

Подпісы 25 гадоў таму пад Будапешцкім мемарандумам паставілі: з брытанскага боку — Джон Мэйджар, ад ЗША — Біл Клінтан, ад Расіі — Барыс Ельцын, ад Украіны — Леанід Кучма, ад Казахстана — Нурсултан Назарбаеў, ад Беларусі — Аляксандр Лукашэнка. Ён на той момант пабыў на пасадзе прэзідэнта краіны ўсяго толькі некалькі месяцаў, і ўвогуле паездка ў Будапешт, дзе тымі днямі адбылася Канферэнцыя па раззбраенні і Нарада па бяспецы і супрацы ў Еўропе, стала яго першым замежным візітам. Калі не лічыць візіт у жніўні 1994-га ў Маскву.

### Памылковае падпісанне?

Уладзімір Глод, тады палітычны аглядальнік урадавага інфармагенцтва БЕЛТА, які лятаў у сталіцу Венгрыі адным самалётам з кіраўніком Беларусі і тагачасным міністрам замежных справаў Уладзімірам Сянько, прыгадваў у размове з аўтарам гэтых радкоў, што Лукашэнка заўважна хваляваўся. Падчас афіцыйных сустрэчаў паводзіў сябе сціпла, прыглядаючыся і не вытыркаючыся на першыя планы. І вось акурат на першы замежны візіт прыпала падпісанне такога важнага дакумента пра вывад ядзернай зброі з Беларусі. Пазней Аляксандр Лукашэнка не раз закранаў гэтую тэму — не хаваючы шкадавання. У прыватнасці, называў Будапешцкі мемарандум «ганебным дакументам», што яму «давялося падпісваць гэтую дамову, бо няма было куды падзецца: ціснулі і Расія, і амерыканцы — выводзьце ядзерную зброю, бо паабяцалі».

Сапраўды, змест мемарандума рыхтаваўся да яго прэзідэнцтва. Яго падпісанне Лукашэнка назваў памылкай, бо на ядзернай зброі можна было зарабіць больш, а «вялікія "свядомыя" без усялякіх умоваў вывелі і аддалі бясплатна». Карацей, і тут Лукашэнка панаракаў на палітычных супернікаў, хаця подпіс пад Будапешцкім мемарандумам выводзіў усё ж уласнаручна.

Дарэчы, першы кіраўнік Беларусі Станіслаў Шушкевіч паставіўся крытычна да падпісання Будапешцкага мемарандума ў такім фармаце, у якім ён з'явіўся і застаўся. «Быў мемарандум, дэкларацыя, — казаў ён у інтэрв'ю ўкраінскім СМІ. — Гэта розныя рэчы: дэкляраваць і заключыць дамову. Напрыклад, пагадненне аб стварэнні СНД: яно падпісана і ратыфікавана дзяржавамі. А тут было выказана меркаванне кіраўнікоў, што гарантамі з'яўляюцца нейкія краіны. Але ніхто гэтага не праводзіў праз заканадаўства Брытаніі ці Злучаных Штатаў. Таму гэта такі пратакол аб намерах».

### Мемарандум што дышла

Дарэчы, у англамоўным варыянце мемарандумнага тэксту ўжываецца слова «assurances», якое можна перакласці як «запэўніванні». А гэта бліжэй да абяцанняў, чым да гарантыяў. Памылкай падпісанне Будапешцкага мемарандуму называлі і прэзідэнты Украіны — Кучма, Краўчук, Юшчанка. Амерыканскія палітыкі пасля крымскіх падзеяў так і казалі: Будапешцкі мемарандум — не пагадненне аб гарантыях бяспекі, а абяцанне паважаць суверэнітэт і цэласнасць, а таму ЗША яго не парушалі. Эксперты ж кажуць, што памыліліся і самі ЗША, калі прымусілі нас і ўкраінцаў вывесці ўсю ядзерную зброю ў Расію.

Натуральна, што з 2014 года тэма Будапешцкага мемарандуму ва Украіне абмяркоўвалася вельмі часта. З закідамі на адрас Масквы, але МЗС Расіі адказваў, напрыклад, так: «У мемарандуме мы абавязаліся ўстрымлівацца ад пагрозы сілай або яе ўжывання супраць тэрытарыяльнай цэласнасці ці палітычнай незалежнасці Украіны. І гэта палажэнне абсалютна выкананае. Ні напярэдадні, ні падчас прыняцця насельніцтвам Крыму лёсавызначальных рашэнняў па статусе паўвострава ніводнага стрэлу на яго тэрыторыі не прагучала. Пераважная большасць насельніцтва Крыму і Севастопаля праз свабоднае волевыяўленне рэалізавала права на самавызначэнне, і Крым вярнуўся ў Расію».

Пазней быў такі каментар: «Мы працягваем паважаць тэрытарыяльную цэласнасць Украіны ў тых межах, якія склаліся пасля рэферэндуму ў Крыме і пасля яго ўз'яднання з Расійскай Федэрацыяй».

Між тым, некалькі разоў да Будапешцкага мемарандума апелявалі і ў Беларусі. Прычым, што цікава, — і апазіцыя, і ўлады! У першым выпадку пагроза бачылася ў агрэсіўных планах Расіі, у другім — крытыцы падвяргаўся Вашынгтон. Напрыклад, МЗС Беларусі абвінавачвала ЗША ў парушэнні Будапешцкага мемарандума пасля ўвядзення санкцый, якія былі названыя «захадамі эканамічнага прымусу».

Акурат пункт Будапешцкага мемарандума пра запэўніванне «ўстрымлівацца ад эканамічнага прымусу, накіраванага на тое, каб падпарадкаваць сваім уласным інтарэсам ажыццяўленне Рэспублікай Беларусь правоў, уласцівых яе суверэнітэту, і такім чынам забяспечыць сабе перавагі любога роду», можна звязаць з беларуска-расійскімі інтэграцыйнымі працэсамі ў межах так званай Саюзнай дзяржавы. Нездарма днямі грамадскія і палітычныя лідары Беларусі разам з Радай БНР прынялі сумесную заяву «Аб пагрозе Незалежнасці Беларусі», у якой звяртаюць увагу на небяспечны намер Уладзіміра Пуціна і Аляксандра Лукашэнкі падпісаць 8 снежня пакет дарожных мапаў дзеля «паглыбленай інтэграцыі».

У гэтай заяве згаданы і прыняты ў сталіцы Венгрыі 25 гадоў таму дакумент: «Мы заклікаем дэмакратычныя дзяржавы свету, у тым ліку тыя, што падпісвалі Будапешцкі мемарандум, а таксама Еўрапейскі саюз асудзіць любыя спробы Расійскай Федэрацыі абмежаваць суверэнітэт Беларусі, выкарыстоўваючы адсутнасць у Беларусі дэмакратычна выбранай улады, а таксама выступіць з ініцыятывай гарантый незалежнасці Беларусі на міжнародна-праўнай аснове».

На жаль, рэчаіснасць паказала, што Будапешцкі мемарандум — мёртвы дакумент, а таму апеляванне да яго, хай і маральнае, але наіўнае. Усё залежыць ад нас саміх.

# Вайсковы ціск? Расійскія

Дзяніс ІВАШЫН

**Пасля пачатку расійскай ваеннай агрэсіі супраць Украіны Узброеныя сілы Расіі сталі фарміраваць новыя вайсковыя злучэнні для нарошчвання ўдарнага патэнцыялу і стварэння адзінай наступальнай лініі. Непасрэдна ля мяжы з нашай краінай з 2016 года пачалі фарміравацца новыя расійскія ўдарныя падраздзяленні, пункты дыслакацыі якіх — з улікам мясцовасці, інфраструктуры і наяўных транспартных шляхоў спалучэння — сведчаць пра абсалютную прыярытэтнасць беларускага стратэгічнага напрамку.**




**Эшалон з дывізіёнам самаходных 152-мм гаўбіцаў «Мста-С» (2С19) прыбывае да мяжы з Беларуссю і Украінай**



**Вайскоўцы 488-га МСп на шыхтавым плацы вайсковага мястэчка №2 у г. Клінцы**

З 2018 года ў месцах базавання гэтых падраздзяленняў пачалося істотнае назапашванне ўзбраенняў і вайсковай тэхнікі, якое на гэты момант з'яўляецца адкрытай пагрозай для Беларусі.

У красавіку 2016 года валанцёры міжнароднай выведвальнай супольнасці InformNapalm першымі выявілі і раскрылі планы Узброеных сілаў (УС) РФ па перакідванні падраздзяленняў 28-й асобнай мотастралковай брыгады (АМСБр) з Екацярынбурга да мяжы з Беларуссю і Украінай. Характэрна, што ў траўні таго ж года міністр абароны РФ Сяргей Шойгу заявіў: «Новыя дывізіі будуць створаныя для супрацьдзеяння нарошчванню сілаў NATO ля расійскіх межаў». Аднак Беларусь не з'яўляецца чальцом Паўночнаатлантычнага альянсу і афіцыйна ніколі не заяўляла пра намеры ўвайсці ў яго. Больш за тое, менавіта з Расіяй яна ўваходзіць ва ўсе мажлівыя вайсковыя хаўрусы.

Падобныя заявы разам з пашыранымі расійскімі СМІ паведамленнямі пра стварэнне «звышмагутнага браняванага кулаку» ля беларускай мяжы не вытрымліваюць аніякай крытыкі і спрабуюць насамрэч схаваць асноўныя мэты і задачы разгортвання новых вайсковых аб'ектаў ля мяжы з Беларуссю, якія могуць стаць плацдармам у выпадку далейшай эскалацыі агрэсіўных дзеянняў з боку Расіі.

У траўні 2016 года ў памежныя з Беларуссю і Украінай раёны — у Ельню Смаленскай вобласці і Клінцы Бранскай вобласці — з Екацярынбурга былі перакінутыя першыя падраздзяленні 28-й АМСБр Цэнтральнай вайсковай акругі УС РФ. На іх базе пачалося разгортванне 144-й гвардзейскай мотастралковай дывізіі (в/ч 61423, нумар перайшоў ад 28-й АМСБр), якая, паводле арганізацыйна-штатнай структуры, увайшла ў перафарміраваную 20-ю агульнавайсковую армію Заходняй вайсковай акругі.

На гэты момант у складзе 144-й МСД маюцца наступныя



**Камандзір 488-га МСп палкоўнік Уладзімір Карала.** Фота klintsy.info

фарміраванні і падраздзяленні: 488-ы мотастралковы полк (МСп), 254-ы МСп, 59-ы танкавы полк, 856-ы самаходны артылерыйскі ракетны полк, 1259-ы зенітны ракетны полк, асобныя зенітна-ракетны і процітанкавы дывізіёны, 5 асобных батальёнаў і 3 асобныя роты. Запланавана разгортванне яшчэ аднаго мотастралковага палка і даўкамплектаванне 59-га Тп і 254-га МСп.

Горад Клінцы, што знаходзіцца ў зоне з падвышаным узроўнем радыяцыі праз аварыю на ЧАЭС і ўсяго за 34 кіламетры ад мяжы з Магілёўскай вобласцю Беларусі, і за 42 кіламетры ад Чарнігаўскай вобласці Украіны, стаў пунктам сталай дыслакацыі адразу двух расійскіх мотастралковых палкоў.

Першым клінцоўскім фарміраваннем стаў наноў створаны 488-ы мотастралковы Сімферопальскі Чырвоназнамёны, ордэна Суворава другой ступені полк імя С. Арджанікідзэ (в/ч 12721). З 2019 года ім камандуе палкоўнік Уладзімір Мікалаевіч Карала.

З траўня 2016 года перадыслакаваныя ўральскія падраздзяленні 28-й АМСБр знаходзіліся ў мясцовасці на паўночным захадзе Клінцоў непадалёк н.п. Філатаў Хутар, дзе былі створаныя палявыя лагер і парк узбраення і вайсковай тэхнікі (УВТ).

Напрыканцы 2016-га і пачатку 2017 года асабовы склад быў перадыслакаваны на тэрыторыю адноўленага вайсковага мястэчка №2 (каардынаты месца дыслакацыі: 52°44'49.4"N 32°15'02.3"E). У выніку выведкі адкрытых крыніцаў інфармацыі вызначана, што жаўнераў размясцілі ў двух рэканструяваных трохпавярховых інтэрнатах агульнага тыпу, разлічаных на 300 вайскоўцаў кожны, і ў трох збудаваных двухпавярховых інтэрнатах блочна-модульнага тыпу на 200 вайскоўцаў кожны. То-бок, у гэтых казармах на тэрыторыі вайсковага мястэчка могуць быць раскватараваныя да 1200 жаўнераў.

На гэтай тэрыторыі, згодна з зацверджаным генеральным планам, павінны былі збудаваць яшчэ дзве блочна-модульныя казармы і рэканструяваць адзін будынак для размяшчэння да 700 вайскоўцаў. Таксама планавалася пабудаваць не менш за 14 сховішчаў узбраення і вайсковай тэхнікі, разлічаных агулам на 470 машынамесцаў. Аднак станам на кастрычнік 2019 года са значных аб'ектаў гэтага праекту рэалізаваная толькі рэканструкцыя і пабудова пяці інтэрнатаў, збудаваная вялікая сталоўка на 1000 чалавек, здзейсненая рэканструкцыя штабу палка і адноўлены шыхтавы плац.

З канца 2016 і пачатку 2017 года ўзбраенне і васковую тэхніку з парку УВТ непадалёк



**Палявы парк УВСТ 488-га МСп, г. Клінцы, с. Займішча**



**Палявы парк УВСТ 488-га МСп, г. Клінцы, с. Займішча**



**Палявы лагер (унізе леваруч) і палявы парк УВТ 488-га МСп, чэрвень 2016 года.** Фота TerraServer, DigitalGlobe



**Тэрыторыя адноўленага вайсковага мястэчка №2 з месцам дыслакацыі асабовага складу 488-га МСп УС РФ.** Фота Google Earth

# войскі на мяжы з Беларуссю



УВТ 488-га МСп, кастрычнік 2019 г.
Фота TerraServer, DigitalGlobe

**Створаныя фарміраванні расійскай арміі валодаюць значным патэнцыялам для правядзення аперацыяў у межах мажлівай гібрыднай вайны ва Усходняй Беларусі, калі сілы і сродкі для прымушэння нашай краіны да інтэграцыі будуць вычарпаныя. Безумоўна, гэта — фактар наўпроставага вайскова-палітычнага ціску на кіраўніцтва Беларусі**

н.п. Філатаў Хутар пачалі перасоўваць у сяло Займішча — адміністрацыйную частку Клінцоў, якая знаходзіцца на поўдні гэтага горада. Тут у прамежку з канца чэрвеня па верасень 2016 года пачалі разбудоўваць палявы парк узбраення, вайсковай і спецыяльнай тэхнікі (за 41 кіламетр ад мяжы з Беларуссю; каардынаты месца дыслакацыі: 52°43'02.2"N 32°16'18.0"E).

Палявы парк у Займішчы арганізаваны паводле батальённага прынцыпу. Яго арганізацыя і абсталяванне забяспечваюць перадусім мажлівасць хуткага вывядзення вайсковай тэхнікі па баявой трывозе. Пры гэтым ахоўныя ўласцівасці мясцовасці практычна не выкарыстоўваюцца, на нізкім узроўні знаходзіцца арганізацыя маскавання і схрону вайсковай тэхнікі.

З аналізу спадарожнікавых здымкаў вынікае, што 488-ы МСп складаецца з трох мотастралковых і аднаго танкавага батальёну, аднаго гаўбічнага і аднаго ракетна-артылерыйскага дывізіёну.

Паводле наяўнасці спецыяльнай вайсковай тэхнікі полк мае асобныя роты (інжынерна-сапёрная, рамонтная, сувязі, матэрыяльнага забеспячэння). На спадарожнікавым здымку зафіксаваныя наступныя ўзбраенне і вайсковая тэхніка 488-га МСп: да 30 танкаў Т-72, амаль 90 БМП-2, іншыя баявыя браняваныя машыны (ББМ), дзясяткі разнастайных браняваных машынаў забеспячэння, некалькі дзясяткаў сістэмаў артылерыі, у тым ліку 12 адзінак буксаваных 152-мм гаўбіцаў 2А65 «Мста-Б», некалькі адзінак БМ-21 «Град». Таксама выяўленыя рухомыя сродкі тэхнічнага абслугоўвання бранятанкавага ўзбраення і тэхнікі ў палявых умовах.

Характэрна, што калі агульная плошча вайсковай базы ў



**Спадарожнікавыя здымкі для параўнання плошчы вайсковай базы г.Клінцы, с. Займішча, леваруч — травень 2018 года, праваруч — кастрычнік 2019 года.** Фота TerraServer, DigitalGlobe

Займішчы яшчэ ў траўні 2018 года складала 25 гектараў, то ўжо станам на кастрычнік 2019 года база займала больш за 60 гектараў зямлі, то-бок, павялічылася больш чым удвая. Меркавана, тэрыторыя гэтага вайсковага аб'екта будзе і далей пашырацца праз даўкамплектаванне і фарміраванне новых падраздзяленняў.

Істотнае павялічэнне плошчы вайсковага аб'екту ў Займішчы адбылося праз разгортванне ў 2018 годзе другога вайсковага фарміравання 144-й МСД, якое з гэтага часу мае тут сталы пункт дыслакацыі. Гэта 254-ы гвардзейскі мотастралковы полк імя Аляксандра Матросава (в/ч 91704, ПСД — г. Клінцы, с. Займішча). На сёння ён па колькасці асабовага складу і наяўнага ўзбраення і вайсковай тэхнікі з'яўляецца батальённай тактычнай групай. Паводле аналізу спадарожнікавых здымкаў, яна складаецца з мотастралковага батальёну, узброенага да 40 адзінак ББМ (меркавана, БТР-80 і БТР-82А), і ўзмоцненага танкавай ротай (не менш за 8 адзінак, меркавана, Т-72БА). Апроч гэтага ва ўзбраенні маюцца і некалькі дзясяткаў сродкаў артылерыі, у тым ліку дывізіён буксаваных 152-мм гаўбіцаў 2А65 «Мста-Б» (зафіксавана 12 адзінак) і некалькі адзінак БМ-21. Працягваецца ўкамплектаванне гэтага фарміравання да паўнавартаснага палка.

Улетку 2018 года на тэрыторыі палявога парку ў Займішчы пачалося будаўніцтва казармаў для вайскоўцаў. За некалькі месяцаў, да кастрычніка 2018 года, былі ўзведзеныя 4 блочна-модульныя збудаванні, разлічаныя агулам на не менш за 800 вайскоўцаў. У іх, меркавана, размешчаны асабовы склад 254-га МСп.

Характэрна, што актыўнае перакідванне вайсковай тэхнікі і ўзбраення да мяжы з Беларуссю супадае з пачаткам інтэнсіфікацыі захадаў з боку РФ да паўнавартаснага разгортвання так званага «Саюзнага Государства». Нягледзячы на тое, што Беларусь з'яўляецца адным з асноўных вайсковых хаўруснікаў Расіі, з якой створаная адзіная рэгіянальная групоўка войскаў, адзіная сістэма супрацьпаветранай абароны, расійскае камандаванне разгортвае ўздоўж беларускай мяжы паўнавартасную ўдарную наступальную лінію, якую ўтвараюць фарміраванні 144-й МСД.

Вайсковая база ў Клінцах знаходзіцца ўсяго за 90 кіламетрах ад Гомеля, злучаная з горадам чыгуначным спалучэннем і трасай рэгіянальнага значэння. На ёй дыслакуюцца фарміраванні, разгорнутыя на падставе падраздзяленняў 28-й мотастралковай брыгады з Екацярынбурга, якія атрымалі значны баявы досвед падчас расійскай ваеннай агрэсіі супраць Украіны і Сірыі. Створаныя фарміраванні расійскай арміі валодаюць значным патэнцыялам для правядзення аперацыяў у межах мажлівай гібрыднай вайны ва Усходняй Беларусі, калі сілы і сродкі для прымушэння нашай краіны да інтэграцыі будуць вычарпаныя. Безумоўна, гэта — фактар наўпроставага вайскова-палітычнага ціску на кіраўніцтва Беларусі.

Адсутнасць з боку Беларусі памежнага кантролю і значных вайсковых сілаў на мяжы з Расіяй у Магілёўскай і Гомельскай абласцях істотна павялічваюць вызначаныя пагрозы.

Разам з тым, нягледзячы на прыярытэтнасць беларускага стратэгічнага напрамку для разгортвання і прасоўвання створаных фарміраванняў 144-й МСД, яны могуць быць выкарыстаныя і супраць Украіны. Рэалізацыя сцэнару поўнамаштабнага ўварвання Узброеных сілаў РФ ва Украіну прадугледжвае і выкарыстанне тэрыторыі Беларусі ў якасці ваеннага плацдарму, наступальныя стратэгічныя аперацыі з якога могуць праводзіць таксама сілы 1-й танкавай арміі. Элементы гэтых дзеянняў ужо былі адпрацаваныя падчас супольных стратэгічных вучэнняў «Захад–2017».



**Палявы парк УСВТ і збудаванае ў 2018 годзе вайсковае мястэчка УС РФ, кастрычнік 2019 г.**
Фота TerraServer, DigitalGlobe



## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Слуга народа — праект Масквы?

Сенсацыйную версію паходжання серыяла «Слуга народа», у рамках якога Уладзімір Зяленскі прыйшоў да ўлады, выдаў украінскі гумарыст, артыст і экс-консул Украіны ў Ізраілі Дзмітрый Чэкалкін. Нагадаем, што сутнасць праекта заключалася ў тым, каб стварыць на экране вобраз ідэальнага прэзідэнта Украіны. Пазней Зяленскі, які выканаў у серыяле галоўную ролю, балатаваўся ў прэзідэнты і трыумфальна выйграў, эксплуатуючы свой экранны вобраз. Чэкалкін сцвярджае, што яшчэ 10 гадоў таму нейкія людзі з Масквы прапанавалі яму выканаць ролю звычайнага чалавека, які становіцца прэзідэнтам Украіны. Чэкалкіну нібыта прапаноўвалі за ролю каласальныя грошы, але ён адмовіўся, паколькі адчуў нешта нядобрае. Прызнанні артыста, вядома, заслугоўваюць увагі, аднак яго версія не ідэальная. Дзесяць гадоў таму, то-бок у 2009 годзе, украінская палітычная сістэма была адносна стабільнай. У такой сітуацыі інвеставаць грошы ў праект, які можа спрацаваць выключна ва ўмовах татальнага расчаравання палітыкамі, усё ж было вельмі рызыкоўна.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЗША. Каляды пачынаюцца ў кастрычніку

Простыя амерыканцы актыўна пратэстуюць супраць спробаў шэрагу камерцыйных устаноў пачынаць калядную ліхаманку задоўга да Калядаў. Як высвятляецца, у гэтым годзе яшчэ ў кастрычніку шматлікія крамы ў Злучаных Штатах упрыгожылі свае вітрыны калядным дэкарацыямі, пачалі круціць калядкі, ставіць перад уваходам фігуры Санта-Клаўса і гэтак далей. Усё гэта выклікала незадаволенасць некаторых амерыканцаў. Яны скардзяцца, што падобная практыка знішчае ўсю радасць і атмасферу Калядаў. «Давайце ўжо пачынаць ставіць ялінкі ў крамах у ліпені», — жартуюць на інтэрнэт-форумах. Уладальнікі крамаў, у сваю чаргу, кажуць пра вынікі апытанняў, якія сведчаць, што прыкладна 17–20 працэнтаў спажыўцоў заўжды пачыналі рыхтавацца да Калядаў яшчэ ў кастрычніку. У сувязі з гэтым варта чакаць, што Каляды (як мінімум за акіянам) будуць сапраўды пачынацца ўвосень. У тым ліку таму, што ў часы каляднага сезона тут звычайна прадаецца тавараў і прадуктаў на суму больш за трыльён долараў. Большасць крамаў робяць прыкладна 20 працэнтаў свайго гадавога прыбытку менавіта напярэдадні Калядаў.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Назваць дзіця ў гонар прэзідэнта

Напярэдадні 1 снежня, калі ў Казахстане адзначаецца Дзень першага прэзідэнта, была апублікаваная цікавая статыстыка. Яна ілюструе, наколькі часта ў краіне бацькі называюць дзяцей імем прэзідэнта — Нурсултан. Увогуле, цяпер у Казахстане жыве каля 18 тысяч Нурсултанаў. Аднак, відавочна, што палітычную афарбоўку імя Нурсултан атрымала толькі па ходзе замацавання сістэмы асабістай улады Назарбаева. І тут ёсць цікавы момант. Нягледзячы на тое, што афіцыёз распавядае пра любоў народа да гаранта, дынаміка папулярнасці гэтага імя ў краіне паступова зніжаецца. Калі ў 2015 годзе на свет з'явіліся 205 Нурсултанаў, то ў 2016-м — 136, у 2017-м — 104, у мінулым годзе — толькі 67. У 2019 годзе імем Нурсултан назвалі ўсяго 41 малога. Цікава, што сярод тых, хто носіць імя Нурсултан, пяць дзяўчынак. Як яны жывуць з мужчынскім імем, цяжка сказаць. Магчыма таму яшчэ дзвюх дзяўчынак назвалі Нурсултана.

**Паводле казахскай прэсы**

### ІРАН. Няма інтэрнэту — няма рэвалюцыі?

Прэса піша, што іранскія ўлады ўпершыню апрабавалі новы інструментар лакалізацыі пратэстаў, над якім працавалі апошнія дзесяць гадоў. Нагадаем, што ў 2009 годзе пратэставаць супраць сфальсіфікаваных вынікаў прэзідэнцкіх выбараў выйшлі сотні тысяч чалавек. Інфармацыя пра пратэстныя акцыі распаўсюджвалася праз сацсеткі, якія ўлады маглі блакаваць толькі кропкава. Як правіла, яны абмяжоўвалі доступ да непажаданых рэсурсаў, хаця грамадзяне лёгка абыходзілі забароны. Тады задушыць пратэсты ўдалося. Праз 10 гадоў, у лістападзе 2019-га, пачаліся бунты супраць росту коштаў на паліва. На гэты раз, каб сцішыць іх, улады рэалізавалі беспрэцэдэнтны для краіны з глыбокім пранікненнем інтэрнэту блэкаўт, адрэзаўшы ад знешняга свету 60 мільёнаў карыстальнікаў. Блакада закранула 95% уваходнага і выходнага трафіку. Аднаўляць доступ у навакольны свет Савет нацбяспекі Ірана пачаў толькі на апошніх выхадных, калі пратэсты былі амаль задушаныя. Наколькі такая мера дапаможа іранскім уладам у будучыні ўтрымаць стабільнасць — спрэчнае пытанне, бо тэхніка не стаіць на месцы. Затое няма сумневаў, што да іранскага эксперыменту будуць прыглядацца ў сталіцах іншых аўтарытарных дзяржаў.

**Паводле замежных СМІ**

# А заўтра была вайна?

Алег НОВІКАЎ

**Па ходзе набліжэння прэзідэнцкай кампаніі амерыканскі соцыум павольна ахоплівае фатальная ўстаноўка пра тое, што выбары абавязкова закончацца новай грамадзянскай вайной.**





Фота www.theatlantic.com

«Амерыканская рэспубліка перажыла больш за два бурлівыя стагоддзі, грамадзянскую вайну, эканамічную дэпрэсію, дзве сусветныя вайны і мноства іншых праблем. Але ці зможа рэспубліка перажыць Дональда Трампа? Наступныя 12 месяцаў вызначаць лёс амерыканскага эксперыменту», — такую катэгарычную выснову зрабіў уплывовы часопіс The Atlantic у апошнім лістападаўскім выпуску. У прынцыпе, падобныя песімістычныя прагнозы пра непазбежнасць канфлікту ліберальнай і кансерватыўнай фракцыі амерыканцаў гучалі і раней. Аднак тыя публікацыі не траплялі ў топы чытацкага інтарэсу, не выклікалі агульнанацыянальных дэбатаў.

Свой пункт гледжання The Atlantic і іншыя медыя аргументуюць наяўнасцю шэрагу небяспечных дэстабілізуючых фактараў. Перш за ўсё, тое, што кампанія стартуе паралельна з парламенцкімі слуханнямі пра імпічмент прэзідэнта. Такіх прэцэдэнтаў гісторыя дзяржавы не ведала. Таксама з сярэдзіны мінулага стагоддзя не назіралася і такой ступені палітычнай палярызацыі і радыкалізацыі грамадства.

Праўда, свой унёсак у спіраль напружанасці робяць і палітыкі. Па меры таго, як расследаванне ў парламенце працягваецца, Трамп дапускае ўсё больш раз'юшаныя, асабістыя і грубыя атакі на адрас апанентаў, падсілкоўваючы лютасць свайго электарату. У нядаўняй прамове ён назваў дэмакратычных лідараў «вар'ятамі», а імпічмент — «падманам», і гэтак далей. Прэзідэнт нават адкрыта палохае дэмакратаў з'яўленнем «злоснай большасці».

Другі небяспечны фактар — магчымасць выбуху недаверу да судовай сістэмы, за кошт якой раней удавалася ўтрымліваць баланс партыйных інтарэсаў. Зараз на разглядзе суддзяў Вярхоўнага суда знаходзіцца шэраг рэзанансных спраў. Сярод іх — справы пра дыскрымінацыю чальцоў ЛГБТ-супольнасці па месцы працы або пра правы дзяцей-імігрантаў на прытулак ды іншыя, вельмі палітызаваныя. Паколькі рэспубліканцы маюць большасць у судзе, вердыкт Феміды можа разглядацца як палітычная замова. Як вынік, аўтарытэт суду можа быць падарваны і, калі на выбарах узнікнуць калізіі, рашэнні Вярхоўнага суда з самага пачатку будуць пастаўленыя пад сумнеў.

Нарэшце, ужо зараз называюцца падставы, якія дазваляюць лузерам на выбарах аспрэчыць канчатковыя вынікі. Пачаць можна са шматлікіх спекуляцый наконт уплыву на выбары сацыяльных сетак, якія не працуюць па прынцыпах забеспячэння сумленнай палітычнай канкурэнцыі. Больш за тое, за піяр-кампаніямі па дыскрэдытацыі таго ці іншага кандыдата ў сеціве могуць стаяць нават замежныя цэнтры.





**Відавочна, што Трамп пасля перамогі пачне помсціць. Выйсцем для прыхільнікаў дэмакратаў можа быць эвакуацыя ў «прагрэсіўныя штаты», якія аўтаматычна ўступяць у канфлікт з федэральным цэнтрам**

Усё апісанае дазваляе песімістам бачыць развязку выбараў прэзідэнта наступным чынам. У выпадку, калі Дональд Трамп прайграе, і нават публічна пагодзіцца з вынікамі выбараў, яго экзальтаваная тарсіда ўсё роўна ў гэта не паверыць, будзе казаць пра змову і фальсіфікацыі, намагацца аспрэчыць вынікі ў фармаце публічных акцый. З часам іх падтрымае і вельмі эмацыйна няўстойлівы Трамп.

Варыянт з перамогай Трампа таксама не дае страхоўкі на мірны фінал. У такім выпадку на вуліцы ўжо пойдуць дэмакраты, якім нічога не застаецца. Відавочна, што Трамп пасля перамогі пачне помсціць. Выйсцем для прыхільнікаў дэмакратаў, на думку прэсы, можа быць эвакуацыя ў так званыя «прагрэсіўныя штаты» накшталт Каліфорніі. Яны аўтаматычна ўступяць у нейкі канфлікт з федэральным цэнтрам, які будуць лічыць нелегітымным.

Найбольш брутальны сцэнар прадугледжвае рымейк падзей 1850-х гадоў у Злучаных Штатах. Тады прыхільнікі і праціўнікі рабаўладання распачалі вайну. Пры гэтым мясцовыя ўлады і адміністрацыі штатаў паступова станавіліся на адзін або на другі бок, паколькі цэнтр аказаўся не здольным падтрымліваць грамадзянскі кансэнсус.

Будзем спадзявацца, што падобных жахаў мы не пабачым, аднак, з улікам трэндаў, нешта сапраўды павінна адбыцца. «Не перамога Трампа паклала пачатак палярызацыі амерыканцаў. Яна павольна развівалася на працягу дзесяцігоддзяў. Але эпоха Трампа наэлектрызавала бар'ер партыйнага падзелу. Яго (Трампа) прыхільнікі любяць тое, што яго праціўнікі ненавідзяць. Вынік — спіраль гневу», — піша адзін з амерыканскіх палітолагаў.

Шмат што ў гэтым плане высвятліцца бліжэйшым часам. Спікер Палаты прадстаўнікоў кажа, што да лютага 2020-га, калі пачнецца праймерыз, імпічмент ужо павінен закончыцца. Няма сумневаў, што фінальныя слуханні і галасаванне за адстаўку прэзідэнта мабілізуюць як яго аматараў, так і апанентаў.


Фота www.kp.by

# Армянскі «Бандэра» або самы гуманны філосаф?

Алег НОВІКАЎ

**Падаецца, што гістарычная памяць у постсавецкіх краінах ператвараецца ў перашкоду для еўразійскай інтэграцыі. Самы апошні прыклад — скандал вакол Гарэгіна Нждэ.**

«Мы напярэдадні святкавання 75-годдзя Перамогі. Мы не можам дазволіць, каб на прасторы СНД узводзіліся помнікі фашыстам», — разышоўся прэзідэнт Азербайджана Ільхам Аліеў на нядаўняй цырымоніі з нагоды стогадовага юбілею Бакінскага ўніверсітэта. Яго словы былі адрасаваныя ўладам Арменіі, у сталіцы якой у 2016-м быў узведзены шасціметровы помнік Гарэгіну Нждэ.

Паводле біяграфіі гэтага чалавека, напэўна, можна зняць някепскі серыял. За сваё жыццё Гарэгін Нждэ, што нарадзіўся ў 1886 годзе, паспеў паўдзельнічаць у антыцарскім падполлі, рэвалюцыі ў Персіі, паваяваць у складзе балгарскай арміі падчас Балканскай вайны, а пасля, у гады Першай сусветнай — у складзе рускай арміі, за што нават атрымліваў узнагароды. Але найбольш Нждэ праславіўся ў часы армяна-турэцкай вайны ў 1918-м. Папулярная версія, што менавіта яго атрад спыніў наступ асманаў. Калі ў Арменію прыйшлі «чырвоныя», Нждэ арганізаваў партызанку, а пасля эміграваў у Балгарыю.

У фокусе сучасных гісторыкаў знаходзяцца флірт Гарэгіна Нждэ з нацыстамі. У пачатку 1940-х гадоў ён удзельнічаў у стварэнні армянскіх ваенізаваных частак у складзе Вермахта, а ў 1942-м уваходзіў у склад Армянскага нацыянальнага савета, створанага пры нямецкай адміністрацыі. Нждэ і іншыя чальцы савета ўдзельнічалі ў агітацыі сярод савецкіх ваеннапалонных-армян з мэтай фарміравання Армянскага легіёна. Легіянеры пазней удзельнічалі на баку Вермахта ў баях на Паўночным Каўказе. Адначасова ў самой Армянскай ССР па лініі савета была створана агентура, якая працавала на Берлін. Акрамя таго, чальцы савета намагаліся (праўда, без поспехаў) пераканаць кіраўніцтва Трэцяга Рэйху прызнаць армянаў арыйскай нацыяй. Варта адзначыць, што Нждэ і да вайны меў вялікія праблемы са сваёй партыяй Дашнакцуцюн, якая падазравала яго ў сімпатыях да фашызму.

Усё апісанае Нждэ, натуральна, узгадалі, пасля таго, як Чырвоная Армія ўвайшла ў Балгарыю, дзе ён тады знаходзіўся. Нягледзячы на спробы прымірыцца з Саветамі, яго арыштавалі і праз Лубянку адправілі на гістарычную радзіму, дзе над ім былі арганізаваны паказальны судовы працэс. Зразумела, паводле прысуду Нждэ атрымаў «вышку». Але на той момант смяротнае пакаранне ў СССР было забароненае, і расстрэл замянілі на 25 гадоў турмы. Там вязень захварэў і памёр у 1955 годзе.

**На калабарацыю Нждэ часоў вайны намагаюцца глядзець у ракурсе таго, што армянам у той час пагражала фізічнае знішчэнне. Тады паўставала пагроза інтэрвенцыі Турцыі ў савецкую Арменію, ліквідацыя армянскай дзяржаўнасці і вялікай часткі этнасу**

Пасля рэстаўрацыі незалежнасці Арменіі пачаўся працэс рэабілітацыі Нждэ, якога абвясцілі нацыянальным героем. У краіне сталі называць у яго гонар вуліцы і плошчы, ставіць манументы, здымаць фільмы, выпускаць кніжкі. Некаторыя нацыяналісты нават кажуць, што «Нждэ — найвялікшы гуманны філосаф і палкаводзец усіх часоў і народаў».

На калабарацыю Нждэ часоў вайны намагаюцца глядзець у ракурсе таго, што армянам у той час пагражала фізічнае знішчэнне. У выпадку выхаду немцаў у Закаўказзе паўставала пагроза інтэрвенцыі Турцыі ў савецкую Арменію, ліквідацыя армянскай дзяржаўнасці і вялікай часткі этнасу. Пасля вайны ў лісце на адрас Сталіна Нждэ тлумачыў сваё супрацоўніцтва з немцамі жаданнем выратаваць армян ад лёсу яўрэяў. Усё гэта дазваляе фанатам Нждэ заявіць: яго дзейнасць у перыяд Другой сусветнай вайны, маўляў, не нанесла лагеру антыгітлераўскай кааліцыі нейкіх істотных стратаў.

У прынцыпе, такая фармулёўка падзяляецца цяперашнімі армянскімі ўладамі. «Для нас Гарэгін Нждэ і Іван Баграмян (маршал Савецкага Саюза) маюць аднолькавую каштоўнасць як гістарычныя постаці. Яны змагаліся за Арменію, за армян», — сказаў Нікол Пашынян, каментуючы ідэю Аліева арганізаваць сумесную камісію па вывучэнні спадчыны Нждэ.

Адначасова Ерэван пачаў контратаку. Баку нагадалі пра мясцовага героя Мамеда Расулзадэ, палітычнага дзеяча першай Азербайджанскай Рэспублікі. Падчас Другой сусветнай Расулзадэ быў запрошаны для «перамоваў і кансультацый» у Берлін у рамках фарміравання нацыянальных легіёнаў пры вермахце і СС. Перамовы скончыліся безвынікова, але факт рандэву гісторыкі не аспрэчваюць.

Жарсці вакол спадчыны Нждэ перайшлі Каўказскія горы. 30 лістапада ў расійскім Армавіры муніцыпалітэтам была дэмантаваная памятная шыльда ў гонар Нждэ, якую адкрыла армянская дыяспара. Дэмантажу папярэднічаў перформанс аднаго з дэпутатаў-патрыётаў, які спрабаваў знішчыць шыльду самастойна. Армянскі МЗС асудзіў учынак, а ў армянскай сталіцы ў знак помсты аблілі фарбай помнік Грыбаедаву.

Як будуць мірыцца Ерэван і Масква, пакуль не зразумела, бо адмова ад культу Нждэ ў Арменіі малаверагодная.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Роберт Хабек



Прэса называе лідара нямецкай партыі Зялёныя галоўным бенефіцыярам сенсацыйных пераменаў у кіраўніцтве сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі.

СДПГ узначаляць экс-міністр фінансаў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія Норберт Вальтэр-Бор'янс і дэпутат ад зямлі Бадэн-Вюртэмберг Заскія Эскен. Гэтая пара палітыкаў атрымала 53,06% галасоў пасля падвядзення вынікаў унутрыпартыйнага галасавання, хаця фаварытамі называўся іншы тандэм.

Ракіроўка ў кіраўніцтве эсдэкаў — «чорная метка» для ўрада Ангелы Меркель, які складаецца з кансерватараў і сацыял-дэмакратаў. Новыя сустаршыні ад самага пачатку ставілі пад сумнеў мэтазгоднасць працягу кааліцыі з хрысціянскімі дэмакратамі. На іх думку, партнёрства з ХДС вядзе СДПГ проста да знікнення. Сапраўды, рэйтынгі эсдэкаў падаюць усё ніжэй і ніжэй, і цяпер дасягнулі мінорных 15 працэнтаў. У гэтым плане магчымы выхад эсдэкаў з ураду — і новыя выбары, на якіх хрысціянскім дэмакратам будзе цяжка перамагчы. Іх новаму лідару Анегрэт Крамп-Карэнбаўэр бракуе аўтарытэту і харызмы. Гэтым і могуць скарыстацца Зялёныя, якія маюць шанец абыйсці кансерватараў, і ўпершыню ў нямецкай гісторыі ўзначаліць Кабмін.

Зрэшты, больш канкрэтыкі будзе пасля партыйнага з'езду, на якім Норберт Вальтэр-Бор'янс і Заскія Эскен будуць фармальна зацверджаныя на пасадзе кіраўнікоў.

### Ільхам Аліеў



Відавочна, па патрабаванні кіраўніка Азербайджана парламенцкая фракцыя партыі «Новы Азербайджан» нечакана ініцыявала датэрміновы роспуск парламента, што аўтаматычна азначае новыя выбары.

Выпадак абсалютна дзіўны: навошта партыі, якая і так мае парламенцкую большасць ды цалкам кантралюе заканадаўчы орган, новыя выбары? "Такім чынам мы адкрыем новыя магчымасці для развіцця нашай краіны і ўсталюем новую традыцыю ў гісторыі парламента», — заявіў выканаўчы сакратар партыі Алі Ахмедаў. Афіцыёз, у сваю чаргу, піша, што партыя ўлады вырашыла абнавіцца за кошт моладзі.

Экспертную супольнасць такое тлумачэнне не задавальняе. Лічыцца, што прычына роспуску парламента — у цяжкіх часах, што надыходзяць у краіне. Напрыклад, не выключана новая дэвальвацыя нацыянальнай валюты. Гэтая і іншыя прычыны здольныя актывізаваць пратэстныя настроі. Каб рост пратэстаў не прыйшоўся на час выбараў, іх, адпаведна, вырашылі правесці крыху раней.

Ёсць у Азербайджане і рамантыкі, якія спадзяюцца, што Аліеў пайшоў на роспуск, каб дапусціць у новы парламент апазіцыю. А ў сацыяльных сетках навіна выклікала толькі сумны гумар. «Калі кожныя выбары туды прыходзяць тыя ж людзі, навошта марнаваць лішнія грошы? Хай пакінуць дэпутатаў там на 20 гадоў, і канец», — прапануюць у сацсетках.



### Жаір Балсанару

Прэзідэнт Бразіліі, прадстаўнік правых папулістаў, адназначна трапіць у гісторыю. Не пройшоў і год пасля яго інаўгурацыі, як Балсанару вырашылі асудзіць у міжнародным крымінальным судзе.

Адпаведны намер мае група праваабаронцаў і сем былых бразільскіх міністраў. Яны ўжо пачалі падрыхтоўку матэрыялаў, якія сведчаць, што Балсанару займаецца сістэматычным арганізаваным пераследам бразільскіх індзейцаў. У прыватнасці, ён неадназова ганьбіў карэнных жыхароў Бразіліі, параўноўваў іх з «жывёламі ў заапарках» і «дагістарычнымі людзьмі». У часы Балсанару практычна спыніла дзейнасць дзяржаўнае агенцтва, якое абараняе правы 300 плямёнаў Бразіліі. Дзеючы гарант таксама дазволіў фірмам, якія здабываюць карысныя выкапні, працаваць на землях індзейцаў.

«Мы лічым, што тут прысутнічаюць элементы дзейнасці, якія можна характарызаваць як генацыд, паколькі ў выніку разбураецца традыцыйны лад жыцця насельніцтва», — заявіў былы міністр юстыцыі, адзін з сябраў групы, што вырашыла асудзіць Балсанару.

Пакуль офіс прэзідэнта не каментуе сітуацыю, аднак відавочна, што рэакцыя можа быць феерычнай. Раней Балсанару, якога вінавацяць у пажарах у Амазонскім рэгіёне, перавёў абвінавачванні на амерыканскага акцёра Леанарда Дзі Капрыа. З заявы прэзідэнта можна зразумець, што актор фінансаваў злачынцаў, якія стаяць за падпаламі.

6 снежня 2019 | № 45 (656) Новы Час

# Кацярына Ваданосава: Блюз на верш Багдановіча — чаму не?

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Ідэалы рыцарства, пераплеценыя з міфалогіяй, эстэтыка мінуўшчыны, блюзавы Багдановіч і рок-н-рольна-панкавы Караткевіч — усё гэта адметнасці новага альбома «Стрэчанне» гурта «Kaciaryna Vadanosava & Fantasy Orchestra». Яго прэзентацыя пройдзе ў Мінску 12 снежня і абяцае шмат сюрпрызаў. «Новы Час» пагутарыў з лідаркай калектыву Кацярынай Ваданосавай пра кружэлку і цікавосткі будучага канцэрту, а таксама пра тое, як знаходзіць баланс паміж музыкай, працай, захапленнямі і сям'ёй.**



***— Як нараджаўся ваш новы альбом і ў чым яго канцэпцыя?***

— Ён нараджаўся вельмі хутка, але потым доўга запісваўся. Бо ніхто з маіх музыкаў, і я ў тым ліку, не разглядае музыку як сродак існавання. Увесь працэс расцягнуўся больш чым на два гады. Гэта цяжка, бо калі ты запісваеш першую песню, думаеш, як крута атрымалася, потым пакрысе даходзіш да шостай, пераслухоўваеш першую і разумееш, што ўсё трэба перапісваць наноў. Але, дзякуй Богу, мы гэта адужалі. Бо для мяне гэта быў груз праз банальны недахоп часу і грошай.

Што да канцэпцыі, то адразу гэты альбом уяўляўся ў маёй галаве даволі халодным, колкім, снежным. Таму што там шмат песень, якія атаясамліваюцца ў мяне з зімовым настроем, марозам, лёдам, цемрай. Але потым атрымалася, што незалежна ад нас альбом сам па сабе падзяліўся на дзве часткі: першая — зімовая, халодная, другая — цёплая. Гэта не залежыць ад мажорнасці ці мінорнасці песень, бо і там, і там ёсць сумныя і вясёлыя кампазіцыі. Але канва пары году — зімы ці вясны — прысутнічае.

***— Таму альбом называецца «Стрэчанне»?***

— Так. Справа ў тым, што для мяне прыдумаць песню прасцей, чым назву. І гэтак жа з альбомам — назва нарадзілася пазней за ўвесь запіс. Я была ў адной з камандзіровак (падчас здымак тэлеперадачы «Жывая культура». — НЧ), у чарговай сваёй міні-этнаграфічнай экспедыцыі. І думала, якое ж слова можа паяднаць дзве часткі альбому — зіму і вясну, святло і цемру, холад і цяпло, язычніцтва і хрысціянства. Бо альбом пачынаецца з песні «Ведзьма», а заканчваецца кампазіцыяй «Анёл». За гэта мне, дарэчы, «прыляцела» і ад вернікаў, і ад неапаганцаў. І я ўспомніла, што ёсць такое свята — Стрэчанне. У рускай мове — Сретенье — адразу зразумела, з чым яно звязанае: Ісуса прынеслі ў храм, дзе яго ўбачылі старац Сімяон і Ганна-прарочыца. А ў нас, на Беларусі (я не бяру, канешне, уцаркоўленае гарадское насельніцтва, а звычайных нашых вясковых бабуль і дзядуляў), колькі я ні распытвала людзей, яны ніводнага разу не сказалі ні пра старца Сімяона, ні пра Ганну-прарочыцу, ні нават пра Ісуса!.. Яны казалі, што Стрэчанне — гэта сустрэча зімы з вясной. Адзіная рэлігійная канатацыя, якая прасочвалася, была ў тым, што Ілля-прарок у гэты дзень адмыкае гром, можна пачуць навальніцу, таму трэба ў гэты дзень ісці ў царкву, свянцаць свечкі, і потым гэтыя грамнічныя свечкі захоўваць за абразамі, каб маланкі не спалілі хату.

***— Ты акрэсліваеш жанр свайго гурта хутчэй як фэнтазі-рок і кажаш, што ад фольку ў ім амаль нічога не засталося. Але ж нават сама назва новага альбому адсылае да народных традыцый.***

— У нас чамусьці словам «фольк» акрэсліваюцца ўсе музычныя напрамкі, у складзе якіх ёсць народныя ці акустычныя інструменты. Але гэта, на мой погляд, лухта! Я магу граць псіхадэл з выкарыстаннем цымбалаў, і гэта не будзе фольк. Музыказнаўцы разумеюць фольк як музыку, якая захоўваецца і потым транслюецца. Але яна ўжо існуе. А нашай музыкі не было да таго часу, пакуль мы яе не прыдумалі. Канешне, у нас ёсць адсылкі да народнай музыкі: мы выкарыстоўваем натуральныя лады, паралельныя квінты. Але я ўвогуле мала гуртоў у нас магу аднесці да чыстага фолька. І мне цяжка акрэсліць плынь нашага гурта, бо я ніколі не замарочвалася адносна таго, што я хачу граць. Атрымліваецца ў мяне напісаць рок-н-рол з элементамі панку на словы Караткевіча — крута! Ці блюз на верш Багдановіча — чаму не? Кожны з маіх музыкаў прыўносіць нешта сваё, і мы спрабуем гэта паяднаць.

***— Дзе ты шукаеш натхнення для сваёй музыкі?***

— Мне падабаецца гісторыя, літаратура. Я натхняюся мастацтвам у самым шырокім сэнсе. І прыродай. Мне заўжды кажуць, што я вельмі несучасны чалавек, грэбую патрэбамі сучаснага грамадства, модай. Я шчыра спрабавала ў сабе гэта задушыць, але не атрымліваецца. І калі я прыношу песню, а мае музыкі кажуць, што гэта нейкі медываль, і перарабляюць яе «пад нармальнага чалавека», я ім вельмі ўдзячная.

***— Калі ты бачыш верш, у цябе ў галаве адразу ўзнікае музыка на яго?***

— Я першасную ўвагу надаю слову, адштурхоўваюся часцей ад тэксту, чым ад мелодыі. Хаця бывае, што музыка нараджаецца адразу — так было з песняй на верш Алеся Дудара «Асыпае чэрвень белы сад». У мяне спачатку ў галаве была музыка — прычым такая эпічная, з сімфанічным аркестрам, потым яна перацякала ў пратэстанцкага кшталту харал. І калі мне прапанавалі стварыць песню на гэты верш, я спачатку не магла нічога зрабіць, бо ў ім складаная рытміка, а потым узгадала, што ў маіх нататках такая музыка ёсць, і ўсё вельмі хутка і файна паядналася.

***— На тваю творчасць моцны адбітак накладае адукацыя гісторыка-рэлігіязнаўцы. Чаму ты абрала такі шлях?***

— З ранняга дзяцінства я хацела стаць альбо актрысай, альбо археолагам. Я скончыла школу і пайшла на іспыты ў Акадэмію мастацтваў на тэатральны факультэт. Паспяхова правалiла экзамены і падумала, як пісаў Караткевіч, «страціў не Афіны, хутчэй, Афіны — мяне». У той час можна было паступаць «у дзве хвалі», то-бок у два ўніверсітэты за адно лета. БДУ, іспыты ў які праходзілі адначасова з іспытамі ў Акадэмію мастацтваў, я праваронiла, таму пайшла ў педуніверсітэт. Музпед я адмяла адразу, хаця за плячыма былі 11 гадоў фартэпіяна, і я вучылася ў спецыяльным музычна-педагагічным класе. Я пайшла на гістфак. У той час я штонядзелю хадзіла ў царкву, спявала ў царкоўным хоры, таму абрала спецыялізацыю «рэлігіязнаўства». Потым я сумнявалася, ці правільна абрала спецыяльнасць, асабліва калі пайшла ў магістратуру, бо ні грошай, ні працы не было. Але лёс склаўся так, што мне мая адукацыя вельмі спатрэбілася ў працы і творчасці.

***— Ты кажаш, што грошы для вас — не галоўнае…***

— Усе музыкі, якія разглядалі нашу творчасць як спосаб зарабіць, сышлі, і засталіся чыстыя энтузіясты. Канешне, мне б хацелася, каб мае паплечнікі хоць нешта зараблялі з нашых канцэртаў. Для сябе я такой магчымасці не разглядаю, ды і не жадаю, бо для мяне музыка — велічэзнае задавальненне. Як бы пафасна гэта ні гучала, я без яе не магу, не магу без выхадаў на сцэну, калі я доўга не выступаю, я фізічна пачынаю хварэць. Для мяне важна не столькі цешыць сваё эга, колькі дзяліцца тым, што я прыдумала. Мне пашанцавала, што мае музыкі таксама перажываюць музыку як акт творчасці.

***— Ты пішаш вершы і размаўляеш у жыцці па-беларуску. Чаму і які быў твой шлях да мовы?***

— Мне вельмі пашанцавала, бо ў маёй сям'і ніколі не ставіліся грэбліва да беларускай мовы. Я амаль не памятаю бацькі, ён памёр вельмі рана. Але я памятаю, што ў нас раз на тыдзень быў дзень беларускай мовы: мы гаварылі па-беларуску, чыталі беларускія казкі. Мне расказвалі пра ўсіх дзеячаў нашай культуры. Да таго ж мой стрыечны дзед, Мікола Ваданосаў, быў беларускім пісьменнікам. І яшчэ я пайшла ў школу напачатку 1990-х, у часы беларусізацыі. Ва ўніверсітэцкія гады я канчаткова перайшла на беларускую мову.

***— Як знаходзіш баланс паміж сям'ёй, працай на тэлебачанні, музыкай, шматлікімі захапленнямі (вышыўка, гістарычная рэканструкцыя строяў, кніжны пераплёт…) і ці адчуваеш сябе шчаслівай?***

— Я ўсё міксую. Напрыклад, маё захапленне вышыўкай можна спалучаць з камандзіроўкамі, таму што ў нас вялікія пераезды, і ў машыне прыўкрасна атрымліваецца вышываць. Я не магу сказаць, што знаходжу баланс. У адзін момант мне хочацца займацца адной справай, і я буду ахвяраваць іншымі, хаця б на некалькі гадзін. Ёсць рэчы, якімі я не маю права ахвяраваць. У першую чаргу гэта дзеці. Яны амаль заўжды са мной, за выключэннем камандзіровак.

Нядаўна я злавіла сябе на думцы, што магу лічыць сябе шчаслівым чалавекам. Чамусьці некаторыя думаюць, што мне гэта ўсё «ўпала», і я толькі плады збіраю. Але насамрэч усё, што ў мяне ёсць, ніхто мне не дапамагаў атрымаць. Палову жыцця мне было крыўдна, што ў мяне няма ніякіх сувязяў, што мяне ніхто нікуды не ўладкаваў, ні з кім не пазнаёміў. Што ў мяне так рана памёр бацька, які ведаў на той момант усіх музычных дзеячаў Беларусі. Раней было крыўдна, а цяпер я разумею, што гэта вельмі добра, бо калі б мяне прывялі за ручку, я была б мяккацелай. Мне было б значна цяжэй. Ды і сумленне было б не надта чыстым.

***— А ці не адчуваеш ты сябе закладніцай вобразаў, якія ствараеш?***

— О, так! Гэта бок маёй творчасці. У мяне ёсць пэўны сцэнічны вобраз, які трэба пастаянна падсілкоўваць, і, шчыра кажучы, мне даволі цяжка гэта рабіць. Тыя, хто ведаюць мяне блізка, не ўспрымаюць мяне такой, якая я на сцэне. Тое, што робіцца ў мяне ўнутры, абсалютна не карэлюецца з тым, як я выношу сябе на паказ. Таксама я разумею, што важную ролю тут адыгрывае камерцыялізацыя майго вобразу. Я разумею, што мае музыкі не атрымліваюць ганарараў за песні на тыя вершы, якія я пішу ў стол. Таму мне прыходзіцца выносіць тое, што ў нейкай ступені будзе мецъ попыт. А тое, што я лічу найбольш каштоўнымі сваімі здабыткамі ў вершаскладанні, нікому не паказваецца.

***— Які з тваіх вобразаў табе найбольш блізкі?***

— Я думаю, што кожная жанчына можа адшукаць у сабе любы з гэтых вобразаў. У мяне гэта ў большай ступені залежыць ад абставінаў, чым ад мяне самой. Я магу быць Снежнай Каралевай ці хтанічнай зомбі-русалкай, і пры гэтым заставацца добрай маці і нармальным сябрам. Шкада, што людзі бачаць толькі адзін пэўны бок, але так, напэўна, заўсёды бывае.

***— Які твой бок убачаць гледачы на прэзентацыі «Стрэчання» і што ўвогуле ад яе чакаць?***

— Мы хочам паказаць плён нашай працы за апошнія тры гады. Гэта будзе канцэрт у двух аддзяленнях. Першае — непасрэдна прэзентацыя альбома і тых дзесяці трэкаў, якія ў яго ўвайшлі. Другое аддзяленне — старыя кампазіцыі, апроч таго будуць прэм'еры песень, якія раней нідзе не гучалі. А яшчэ мы зрабілі мерч: выпусцілі міні-калекцыю цішотак са словамі з песень і малюнкамі — выглядае вельмі густоўна, іх можна будзе набыць на канцэрце. Будзе крута!

***Прэзентацыя альбома «Стрэчанне» адбудзецца 12 снежня ў мінскім клубе «Бруггe» (Партызанскі праспект, 6а) а 20.00 (дзверы а 19.00).***

**Фотаздымак прадстаўлены Кацярынай Ваданосавай**

# Ён адраджаў славу Бацькаўшчыны

Надзея САРМАНТ,
сябра клуба «Спадчына»

Анатолю Яўхімавічу Беламу 10 снежня споўнілася б 80 гадоў. Але позним вечарам 11 лістапада 2011 года згасла яго зорка, скончылася яго жыццёвая дарога. Толькі акрамя жыцця фізічнага, ёсць Жыццё Духоўнае, і яно працягваецца ў памяці жывых, у выніках дзейнасці-працы гэтага чалавека, ва ўспамінах пра яго. А якім яго будуць памятаць, што будуць успамінаць — гэта ўжо залежыць ад таго, які след чалавек пакінуў на зямлі: светлы ці цёмны.

След на зямлі Анатоля Белага можна назваць яскравым: чвэрць стагоддзя пад яго кіраўніцтвам дзейнічаў культурна-асветны клуб «Спадчына», выдаваліся кнігі, альбомы, каталогі і іншая друкаваная прадукцыя, з непасрэдным яго ўдзелам былі адкрыты помнікі слынным беларусам, памятныя знакі, уражвае мастацкі музей у Старых Дарогах і створаны ў апошнія гады яго жыцця сайт «Спадчына».

Ужо пасля смерці Анатоля Яўхімавіча яго сям'ёй і сябрамі клуба выдадзеныя кнігі «I паўстала "Спадчына"», дзе коратка і ў храналагічным парадку падаецца дзейнасць клуба, і кніга ўспамінаў пра Анатоля Белага «Жыццё ў імя Бацькаўшчыны» (2015 г.).

Прапаную чытачам выняткі з кнігі ўспамінаў.

### «Жыццё ў імя Бацькаўшчыны»

Феномен Анатоля Белага — як чалавека, творцы, грамадзяніна, арганізатара, яшчэ не зусім намі асэнсаваны. Ён бачыў наперад, быў мудрэйшы за ўладатрымальнікаў і мацнейшы за ўласны лёс. Ён увабраў у сябе ўвесь сусвет. Ён меў свой сусвет, які пакуль яшчэ неспазнаны і недаацэнены. Ён жыў у сваім часе, але і над часам.

Ён быў як рупліва матор нашага Адраджэння, як бел-чырвона-белы штандар, які лунаў над краінай. Ягоная патрэба ў пастаянным самаабнаўленні, фарміраванні і вынаканні новых праектаў па Адраджэнні была ўнутранай асновай, стрыжнем яго натуры, яго тытанічнай, па-сапраўднаму рэнесансавай постаці.

**Святлана Белая**

***

*Беларусь, мая родная маці!*
*Я не здраджу ніколі табе.*
*За ніякія ў свеце багацці —*
*Лепш злажу галаву ў барацьбе!*

Гэтыя радкі С. Новіка-Пяюна з верша «Прысяга» прайшлі чырвонай ніткай праз усё жыццё майго мужа. Так, ён шчыра любіў Беларусь і быў адданы ёй да канца свайго жыцця. Я часам пыталася ў яго: «Толя, для чаго ты так многа працуеш? Калі ж ты адпачнеш? Трэба ж і сябе берагчы». Адказ у яго заўсёды быў адзін: «Я раблю гэта для Беларусі, для свайго народа». I гэта былі не проста пафасныя словы.

**Ала Белая**

***

Асабліва ўражвала яго працаздольнасць, але вядома, што я, будучы падлеткам, не заўсёды разумеў гэтую рысу яго характару. Але дзядуля не падстройваўся пад мой узрост, а адносіўся да



*За ўнёсак у развіццё беларускай культуры Анатоль Белы быў удастоены залатога медаля Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі (Парыж–Масква–Пекін). За дзейнасць па захаванні нацыянальнай спадчыны ўзнагароджаны ордэнам Кірылы Тураўскага, дзвюма граматамі Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта. Медаль імя Яна Масарыка Міністэрства замежных спраў Чэшскай Рэспублікі Анатоль Белы атрымаў у знак падзякі за супрацоўніцтва і паглыбленне беларуска-чэшскіх стасункаў (2007). А Міжнародны Біяграфічны Кембрыджскі Цэнтр (Англія) назваў яго чалавекам года (1999) і ўзнагародзіў дыпломамі «2000 выдатнейшых вучоных XX стагоддзя» (1999) і «100 славутых адукатараў» (2012).*

мяне як да малодшага сябра. Без усяго-ўсялякага дзед Анатоль быў мой лепшы сябра — «мой лучший друг, мой друг бесценный».

**Алесь Белы, унук А.Белага**

***

Вакол Анатоля Белага быў сабраны магутны творчы патэнцыял беларусаў. Гэты патэнцыял трэба было накіраваць адпаведна з творчымі магчымасцямі кожнага. Тут прыйшоў на дапамогу А. Беламу яго прыродны арганізатарскі талент.

**Я. Антанюк, прафесійны вайсковец**

***

Ён быў адзін з руплівцаў адраджэння мілай яму Бацькаўшчыны, роднага краю. Ён не быў баязлівцам у гэтай справе, а ішоў цвёрда і мэтанакіравана па выбраным шляху.

**А. Будзянок, урач**

***

Творчасць А. Белага яшчэ не разгледжана, яшчэ патрабуе аналізу, асабліва ў музейнай і калекцыянерскай дзейнасці. Ён быў першаўзорам у літаратурна-музейнай працы, у зборы рэдкіх кніг і часопісаў, у зборы твораў беларускіх мастакоў. Пра яго пісалі артыкулы, але іх мала, ды і пісалі іх да нейкіх падзей, што было магчымасцю паказаць рэдкія творы з яго калекцыі. ...Жыццёвая і грамадска-філасофская падрыхтоўка дапамагала яму ў арганізацыі і кіраванні як клубам, так і ў яго калекцыянерскай дзейнасці. А дапамагалі яшчэ і яго чалавечыя якасці — добрыя адносіны да людзей, шчырая дапамога ім у розных справах.

**А. Грыцкевіч, доктар гістарычных навук**

***

... Яго імя можна было пачуць на ўсякім мерапрыемстве і ва ўсякай аўдыторыі ў межах Мінска амаль кожны дзень. ...Толькі вось амаль ніхто не пытаў: «Адкуль сілы, Анатоль Яўхімавіч?». А сілы браліся ад шчырага жадання служыць Памяці: ушаноўваць незаслужана забытых змагароў, несправядліва адрынутых паэтаў, збіраць унікальную скарбніцу доказаў нашага слаўнага мінулага. I ён тварыў Храм іх Памяці, ствараў усюды, дзе было гэта магчыма.

**Г. Запартыка, дырэктар БДАМЛІ**

***

Удзячны лёсу, што быў знаёмы з ім. Дзякуючы яму, я яшчэ больш наблізіўся да Беларусі... Вельмі знакава, што Сусветны дзень правоў чалавека супаў з днём нараджэння А. Белага. Ён змагаўся за нашы правы, за нашу гісторыю, за нашу Бацькаўшчыну.

**І. Копыл, прафесійны вайсковец**

***

Тады было шмат выступоўцаў-патэтыкаў, якія ўзнёсла гаварылі пра нашу мову, чыталі патрыятычныя вершы... агітавалі тых, каго агітаваць не трэба было. Анатоль выступаў супраць такіх златавусцаў і заклікаў гаварыць па справе, рабіць справу. Прыкладам быў ягоны клуб. ...Ён сам, нягледзячы на ўсялякія цкаванні, неўспрыманне ўсур'ёз яго дзейнасці, цягнуў сваю лямку, сваю гармату, якая стрэліла па дзяржаўнай абыякавасці да гісторыі, нацыянальнай культуры, беларускай мовы снарадамі, якімі з'яўляюцца музей, помнікі, артыкулы, кнігі...

**М. Лавіцкі, журналіст**

***

Мае частыя сустрэчы з Анатолем, сумесныя разважанні над перспектывамі далейшага існавання беларусаў як самабытнага этнасу, прывялі нас да думкі пра неабходнасць стварэння ў Мінску адмысловага Музея беларускай мовы. Меркавалася, што ён дзеля зручнасці для наведвальнікаў знойдзе сабе прапіску ў самым цэнтры сталіцы.

Уладныя гарадскія структуры нават і выслухаць нас не пажадалі, калі даведаліся, пра што будзе весціся гаворка. ...Але ён не здаваўся і тварыў.

...I я ўдзячны лёсу за перакрыжаванне нашых шляхоў.

**Л. Лыч, доктар гістарычных навук**

***

У дворыку БДУ ...ужо ў 1990-я нечакана ўбачыў не толькі асобныя помнікі беларускім асветнікам, філосафам, прарокам, а цэлыя скульптурныя кампазіцыі. ...Не меншае было і здзіўленне, калі даведаўся, што гэтыя светлыя постаці беларускай мінуўшчыны з іх запаветамі да нашчадкаў паўсталі тут, увасобленыя ў бронзе, руплівасцю, канкрэтнымі заходамі менавіта старшыні клуба «Спадчына» Анатоля Белага.

...Ён памятны справай, а не словам...

**А. Ліс, доктар філалагічных навук,**

***

Ён умеў злучыць незлучальнае, сумясціць несумяшчальнае. Але як гэта атрымоўвалася — было яго сакрэтам.....Некаторыя мастакі прытрымліваліся думкі, што Анатоль збірае мастацкія творы ў карысных мэтах. Але цяпер, калі гартаюць каталог калекцыі Старадарожскага музея «Раскрылі крылы музы», шкадуюць, што на яго старонках іх творы адсутнічаюць.

**У. Мелехаў, мастак**

***

...Як аўтары кнігі «Праз рок-прызму» мы даводзілі пра неабходнасць стварэння беларускамоўнай папулярнай музыкі, якая магла б стварыць канкурэнцыю тым музычным узорам, якія асабліва жорстка навязваюцца нам з Усходу. Некаторыя... выказвалі трывогу, што сучасныя музычныя напрамкі разбураюць традыцыйны фальклор. А. Белы мудра заўважыў: усё што выконваецца па-беларуску, асабліва ў сучасных поп- і рок-напрамках, будзе толькі спрыяць павазе і распаўсюджванню роднага слова сярод моладзі, будзе на карысць яе адраджэнню.

**А. Мяльгуй, музычны крытык**

***

...Але з усёй адказнасцю мушу дадаць, што ўсе мастацкія творы, якія выйшлі з-пад маіх рук за гэтыя гады — вялікая заслуга А. Белага. Гэта ён сваёю неўтаймаванай энергіяй не даў, не дазволіў мне апусціць і зламаць рукі.

...У яго трэба вучыцца многім супрацоўнікам дзяржаўных музеяў, як трэба працаваць, як збіраць і захоўваць нашу мінуўшчыну, нашу багатую і самабытную спадчыну.

**М. Несцярэўскі, мастак**

***

Яго настойлівасць не была імпульсіўнай, не была раднёй амбіцыйнай упартасці, а грунтавалася на паслядоўным і цвёрдым перакананні ў тым, што ён робіць справу патрэбную.

...Ён не быў цёплым, бо ў некаторых выпадках цеплыня з'яўляецца пажыўным асяроддзем для бацыл і мікробаў. Ён быў ці гарачым, ці халодным! Гарачым ён быў у адносінах да справаў дзеля адраджэння і самастойнасці беларускай нацыі, халодным — да ўсіх тых праяваў у канкрэтным чалавеку і ў грамадстве, якія сталі ўпоперак на гэтым шляху... А гэта ўжо не загана, гэта — подзвіг, здзейснены Асобай.

**Н. Сармант, педагог**

***

Ён ішоў сваім, ім самім выбраным, зусім не лёгкім жыццёвым шляхам. Вайсковец, затым выкладчык прэстыжнага Беларускага дзяржаўнага універсітэта... Здавалася б, працуй спакойна, выконвай свае прафесійныя абавязкі — і будзеш абласканы і кіраўніцтвам універсітэта, і ўладамі.

Але не тое было закладзена ў яго беларускім сэрцы. ...Яшчэ будучы школьнікам, ён цікавіўся сапраўднай гісторыяй свайго краю і ніяк не пагаджаўся з тымі скупымі звесткамі, якія давалі школьныя падручнікі. ...I ўсё жыццё ўдасканальваў свае веды і вучыў іншых шукаць сваю сцяжынку да нацыянальнай спадчыны. Яго дэвіз быў такі: «Любіць Радзіму — шанаваць родную мову — захоўваць спадчыну!»

**У. Содаль, пісьменнік,**

***

Гісторыю Беларусі ён ведаў дасканала, бачыў і адчуваў час, супраціўляўся гвалту з усяго нацыянальнага. Божухна, каго толькі ён ні імкнуўся ўвекавечыць! I не дзеля падзякі ці атрымання дывідэндаў, а па закліку сэрца, як герой Быкава — адзін супраць зграі, адзін — супраць усёй «Лініі Сталіна».

...На што ён разлічваў у сваім жыцці? ...Цяжка ісці сцяжынай праўды ў час бяспамяцтва, цяжка змагацца за тое, што не ацэнена ў грашах, маўкліва абмінутае грамадскай думкай... Ён разлічваў на цікаўнасць грамадства да яго дзейнасці, і ў першую чаргу — калекцыйнай. Скарбонцы яго музейных рарытэтаў можа пазайздросціць любы дзяржаўны музей.

**В. Хурсік, журналіст**

***

Без хітрыкаў, без падлашчванняў, проста, паважна, доказна і пераканаўча з нацыянальных мастацкіх пазіцый як гісторык і філосаф ён даводзіў аб годным месцы той ці іншай работы ў яго беларускім зборы. I, ведаеце, мне лёгка было аддаваць яму свае работы. Я ведаў, што яны пераходзяць у вартыя і надзейныя рукі.

...Ён быў вельмі нацыянальным чалавекам з шырокімі інтарэсамі. Дакладней, ён не быў так званым запечным патрыётам. Беларусь ён разглядаў у кантэксце сусветнага універсуму з яе «пачэсным пасадам між народамі».

...Ён быў і рамантык, і рэаліст адначасова, як адначасова — сціплы і маторны, далікатны і напорысты.

**Л. Шчамялёў, мастак**

***

**Фота прадстаўлена Надзеяй Сармант**

*Больш вытрымак з кнігі, а таксама водгукі наведвальнікаў Музея ў Старых Дарогах можна пачытаць на нашым сайце novychas.by 10 снежня.*

# БагатаДата

**На гэтым тыдні хапае розных міжнародных дзён і круглых датаў. А што адзначыце вы? Выбірайце, што даспадобы!**

## 7 снежня

**Міжнародны дзень грамадзянскай авіяцыі.**

**1991.** З 7 па 8 снежня 1991 года ў Віскулях адбывалася сустрэча найвышэйшых кіраўнікоў Беларусі, Расійскай Федэрацыі і Украіны, якія ад імя сваіх дзяржаў — заснавальніц Саюза ССР канстатавалі, што Савецкі Саюз як суб'ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасць спыняе сваё існаванне, і падпісалі пагадненне аб утварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаваў.

## 8 снежня

**Міжнародны дзень мастака.**

**1914.** У вёсцы Дзедзінка Мёрскага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся Часлаў Сіповіч, беларускі рэлігійны і грамадскі дзеяч на эміграцыі. Быў рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду ў Вялікабрытаніі, ініцыятар адкрыцця і заснавальнік Беларускай бібліятэкі імя Скарыны ў Лондане і музея пры ёй.

**1999.** У Маскве была падпісана Дамова аб стварэнні Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Да 20-годдзя з дня прыняцця гэтага дакумента ўлады дзвюх краінаў вырашылі падрыхтаваць пакет дарожных картаў па яго ажыццяўленні — дзеля больш «глыбокай інтэграцыі».

## 9 снежня

**Міжнародны дзень барацьбы з карупцыяй.**

**1809.** У Парыжы нарадзілася Стэфанія Радзівіл (па мужы — графіня Вітгенштэйн). Апошняя ўладальніца Мірскага замка з



роду Радзівілаў. Яе дачка Марыя была жонкай канцлера Германіі Хлодвіга Гогенлоэ.

**1939.** У Екацярынбургу нарадзіўся савецкі і беларускі стралок Ігар Бакалаў, шматразовы чэмпіён свету ў кулявой стральбе з пісталета. У Мінск спартовец пераехаў, бо з Беларусі была яго жонка.

## 10 снежня

**Дзень правоў чалавека, Сусветны дзень футболу,** а таксама **Міжнародны дзень правоў жывёлаў.**

**1939.** У Старых Дарогах на Міншчыне нарадзіўся грамадскі і культурны дзеяч, калекцыянер Анатоль Белы. Стварыў на радзіме прыватны музей, які ператварыўся ў Старадарожскі мастацкі музей. Быў першым дырэктарам музейных комплексаў «Хатынь» і «Курган Славы». Адзін з фундатараў усталявання помніка Максіму Багдановічу ў Яраслаўлі, помнікаў у дворыку БДУ ў Мінску Францыску Скарыну, Міколу Гусоўскаму, Кірылу Тураўскаму, Еўфрасінні Полацкай ды іншым гістарычным постацям у розных мясцінах.

## 11 снежня

**Міжнародны дзень гор і Сусветны дзень дзіцячага тэлебачання.**

**1934.** У Мінску нарадзіўся архітэктар і гісторык архітэктуры Анатоль Воінаў. Аўтар праектаў шэрагу карпусоў Акадэміі навук.

**1994.** Расійскія войскі ўступілі на тэрыторыю Чачні.

## 12 снежня

**Міжнародны дзень нейтралітэту.**

**1979.** У Раўбічах, што пад Мінскам, у разбураным касцёле



адчыніўся Музей беларускага народнага мастацтва (філіял Нацыянальнага мастацкага музея).

**1979.** На пасяджэнні Палітбюро ЦК КПСС было прынята рашэнне аб увядзенні савецкіх войск у Афганістан. Яно было афармлене сакрэтнай пастановай. Супраць выказаўся толькі адзін член Палітбюро — старшыня Савета міністраў Аляксей Касыгін. Падчас вайны ў Афганістане загінулі амаль 800 беларусаў.

## 13 снежня

**1904.** У Маскве нарадзіўся савецкі археолаг Мікалай Варонін, адзін з буйных спецыялістаў па гісторыі культуры і дойлідства Старажытнай Русі. У тым ліку праводзіў раскопкі на Замкавай гары ў Гродне.

**1919.** Старшынёй Народнай Рады БНР стаў Пётра Крачэўскі. Гэта адбылося пасля расколу Рады з-за спрэчак наконт стаўлення да Польшчы. Была яшчэ Найвышэйшая Рада на чале з Язэпам Лёсікам, якая ў выніку ўвосень 1920 года прызнала адзінай паўнамоцнай Народную Раду.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1993

Падпісана да друку 06.12.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.